


# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

15 ВЕРАСНЯ 2000г. № 37/4069 КОШТ 100 РУБ.








# На скрыжаванні стагоддзяў

КУПАЛАЎСКАМУ ТЭАТРУ — 80!



*"Князь Вітаўт", Купалаўскі тэатр.*

*Фота А. МАЦЮША*

Ці заўважалі вы калі-небудзь, што Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы ўзвышаецца на скрыжаванні дарог? У любой вёсцы ў такім месцы звычайна стаіць крыж, а ў горадзе — Тэатр. Калі згадаць біблейскую гісторыю, то першы горад у свеце быў пабудаваны забойцам Каінам. Дык што тэатр — забаўка нячыстага? Нікольні. Тэатр, як лічыў Гогаль, зусім не дробязь, не пустая рэч, калі мець на ўвазе тое, што ў ім не падобныя адзін на аднаго людзі могуць нечакана ўзрушыцца адным узрушэннем, заплакаць аднымі слязьмі і засмяяцца адным агульным смехам. "Гэта такая кафедра, з якой можна многа сказаць свету дабрыні".

Не дзіва, што будынак Мінскага гарадскога тэатра, пастаўлены на скрыжаванні дарог, стаў сапраўдным блаславёным месцам для Беларускага дзяржаўнага тэатра, які адкрыўся тут 14 верасня 1920 года. Разам з дрэвамі, якія раслі ў былым Аляксандраўскім скверыку, тэатр мусіў дасягнуць вяршынь сцэнічнага мастацтва: намаганні славутага Е.Міровіча, таленавітай беларускай трупы, якую склалі акцёры Першага беларускага таварыства драмы і камедыі пад кіраўніцтвам Ф. Ждановіча, не маглі не зрабіць тэатр п е р ш ы м. Калі ўяўляеш, колькі стагоддзяў існуе Тэатр увогуле, восемдзесят пражытых купалаўцамі гадоў здаюцца толькі кропелькай у моры — у моры Вечнасці. Аднак Нацыянальны тэатр імя Янкі Купалы з'яўляецца сапраўдным нацыянальным здабыткам беларусаў у XX стагоддзі! І, можа, цяпер не выпадае згадаць прозвішчы ўсіх яго самабытных акцёраў-асобаў, назвы мноства спектакляў, некаторыя з якіх шмат гадоў не сыходзілі з рэпертуару. Веру, што людзі, якія любяць Купалаўскі тэатр, усё гэта ведаюць. Проста ў думках падыдзем да тэатра, памаўчым.

...Цікава, а якой была восень 14 верасня восемдзесят гадоў таму? Ці заўважалі яе мінчукі, якія беглі на святочнае адкрыццё Беларускага дзяржаўнага тэатра "з удзелам усяго складу беларускай, рускай і яўрэйскай труп, усяго хору і сімфанічнага аркестра", які згадваецца ў пажоўклай афішы? Восень 14 верасня 2000 года здаецца вельмі халоднай і сумнай. Мо таму, што на сцэне Купалаўскага цяпер паказвае свой спектакль швейцарскі тэатр "Расін" (прывітанне забытым антрэпрызам Мінскага гарадскога тэатра), і толькі праз некалькі дзён юбілейны сезон у Купалаўскім тэатры адкрые "Паўлінка". Дні пабягуць як заўсёды, прэм'еры, вечарыны, гастролі, і тэатр не заўважыць як апынецца ў новым стагоддзі.

**В. БАРАБАНШЧЫКАВА**



# КОЛА ДЗЁН

***Верасень — месяц бульбяны, час салодкіх успамінаў: "Ах ты, милая картошка..."***

***Адзін беларус, згадваючы сваю паездку на аўтамабілі па Германіі, Францыі і Галандыі, здзіўляўся, што нідзе не бачыў на палетках (надзіва дагледжаных, чыстых ад пустазелля) згорбленых постацей людзей з матыкамі — там усё робяць машыны. А ў нас? А ў нас на калгасных загонах і прыватных сотках з вясны да позняе восені над барознамі бульбы ды буракоў гарбеюць тысячы — ды што тысячы! — мільёны людзей. Цяжкая знясільваючая праца аніяк не дадае нашым людзям фізічнага здароўя. Больш за тое. Яна цягам вясны, лета і восені (пасадзіць, прапалоць, акучыць, пратруціць, апрацаваць супраць фітафторы і г.д.) не толькі знясільвае, але і атупляе, забірае час, не пакідае яго на кнігу, тэатр, мастацкую выставу. Чалавек перастае бачыць неба, бачыць вышыню — зрок скіраваны ў зямлю, у раллю. Чалавек робіцца цёмным і сляпым, быццам крот...***

***Гарбеем мы ўсе: вяскоўцы і гараджане, старыя і малыя, рабочыя і людзі інтэлігентнай працы — настаўнікі, урачы, журналісты, музыканты, артысты, пісьменнікі. Гарбеем і радуемся: будзем з бульбачкай, агурочкам, цыбулькай, яблычкам...***

***Бульбяны месяц верасень тут асабліва красамоўны...***

### НЮАНС ТЫДНЯ

22 верасня ў Шклове пройдуць "Дажынкі-2000". У дні фестывалю-ярмаркі ў Шклоў з'едуцца прыкладна 3,5 тысячы чалавек — дэлегацыі ад абласцей (па 75 чалавек), 500 артыстаў, каля 1000 работнікаў гандлю, 300 удзельнікаў фальклорнага фестывалю "Вянок дружбы", госці з-за мяжы. Сярод апошніх будуць і палякі. Яны зацікаўлены, бо ў Польшчы такія мерапрыемствы не праводзяцца. Чаму? Ды бадай таму, што вымагаюць немалых выдаткаў. А палякі, дзякаваць Богу, навучыліся лічыць грошы. Мы ж — багатыя. Прынамсі, на тое, каб сустрэць, прыняць і ствapыць гасцям належныя ўмовы ў Шклове на час свята, дзяржава выдзеліла 59 мільёнаў рублёў...

### СТРУКТУРА ТЫДНЯ

Новая арганізацыйная структура з'явілася ў Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Называецца яна Саветам упраўляючых справамі прэзідэнтаў краін СНД. Чым будзе займацца савет? Адным з першых праектаў, які мяркуе ён ажыццявіць, стане арганізацыя адпачынку дзяцей з краін СНД у славутым калісьці "Артэку". Добрая справа, вядома. Ды толькі ўзнікае ўсё ж пытанне: а без новай структуры рабіць гэта нельга было?

### КАЛІДОР ТЫДНЯ

У Санкт-Пецярбургу прайшла другая міжнародная Еўра-Азіяцкая канферэнцыя па транспарце. На ёй абмяркоўвалася пагадненне аб праекце развіцця так званага Паўночнага міжнароднага калідора. Мяркуецца, што маршрут яго праляжа ад кітайскага порта Ляньюнган праз Казахстан, Расію, Беларусь, Польшчу і Германію з выхадам на еўрапейскія порты Ратэрдам ці Рамбург. У гэтым шматтысячнакіламетровым калідоры шэсць соцень кіламетраў будуць беларускімі. Толькі вось ці стане гэты ўчастак сапраўды цывілізаваным, добраўпарадкаваным і, натуральна, платным калідорам, ці так і застанецца звычным, нічыйным прахадным дваром?

### ЗРУХ ТЫДНЯ

Друк паведамляе, што з 1998 года дэмаграфічная сітуацыя ў Беларусі нібыта пачала мяняцца ў лепшы бок. Прынамсі, у той год быў адзначаны мінімальны, але ўсё ж рост нараджальнасці — на 0,5 на 1000 чалавек насельніцтва. Дэмографы і медыкі лічаць гэтую тэндэнцыю станоўчай. Але яна можа й не даць плёну, бо — амаль 70 працэнтаў будучых нашых мам маюць розныя паталогіі, толькі 20 працэнтаў родаў праходзяць нармальна, колькасць абортаў у паўтара раза перавышае колькасць родаў, пераважная большасць дзяўчынак-падлеткаў нездаровыя. Адзначаны станоўчы зрух, такім чынам, калі не прыняць неадкладных захадаў, можа страціць свой плюсавы знак і набыць мінусовы...

### ШОУ ТЫДНЯ

"У мінулую суботу Купалаўскі тэатр стаў эпіцэнтрам прыгажосці. Цягам шасці гадзін кампетэнтнае журы адбірала прэтэндэнтак на ўдзел у конкурсе "Супермадэль свету", які адбудзецца 29 верасня ў Маскве. Амаль 700 красунь ва ўзросце ад 14 да 25 гадоў прайшлі перад журы..." Такая вось газетная інфармацыя, спадары. Ад усяго гэтага — сумна, горка і крыўдна. Сумна, што такая падзея трапляе на першую паласу паважнай газеты. Горка, што гэтае сумнеўнае шоу адбываецца на Акадэмічнай Купалаўскай сцэне. А крыўдна — за ўсіх нас. Вось і мы ўжо, дайце веры, ладзім і афішуем гэтую заходнюю дурноту... А па якойсьці патаемнай асацыяцыі прыходзіць згадка аб тым, што ў нашых дзіцячых дамах сёння — 130 тысяч сірот, пераважная большасць якіх — сіроты пры жывых маці...

### НЕДАЎМЕННЕ ТЫДНЯ

"Белорусская нива" 12 верасня ў сваёй традыцыйнай "шапцы" піша: "Между тем нынешние показатели пока не дотягивают до прошлогодних. Правда, как заверил правительство министр сельского хозяйства и продовольствия Вадим Попов, годовые планы будут выполнены. Но, как говорят белорусы, дай Бог чутае бачыць. Осенних работ на селе еще непочатый край". Бянтэжыць тут вось гэтая заўвага: "как говорят белорусы". Хто яны і дзе жывуць, гэтыя беларусы? І хто гэта згадвае іх? Калі б беларус, дык напісаў бы, скажам, так: "как говорим мы, белорусы" ці "как говорят наши люди". Значыць, пісаў не беларус. І для каго пісаў? Таксама ж — не для беларусаў. Дык што ж атрымліваецца, браткі-беларусы? Дзе, у якой краіне мы жывём? І што гэта за газета, якая выходзіць тут, на гэтай зямлі, і мае назву "Белорусская нива"?

### СУСТРЭЧА ТЫДНЯ

У мінулую пятніцу ў Доме ўрада адбылася сустрэча новага намесніка прэм'ер-міністра М. Дземчука з кіраўнікамі Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў. Інфармацыя аб сустрэчы з'явілася на старонках многіх газет. Але, на жаль, інфармацыя вельмі скупая. Аб тым, хто браў удзел у ёй і аб чым канкрэтна гаварылася там, невядома: афіцыйнае безподпіснае газетнае паведамленне вытрымана ў лепшых савецкіх традыцыях — сцісла і занадта абагуленае...

### ПРЭПАРАТ ТЫДНЯ

Вучоныя Беларускага інстытута радыяцыйнай бяспекі сумесна з калегамі з Аўстрыі і Германіі распрацавалі прэпарат "Вітапект". Ён выпускаецца ў выглядзе вітамінна-мінеральнай дабаўкі ў харчовы рацыён чалавека і эфектыўна спрые ачышчэнню арганізма ад радыенуклідаў. За гэта вучоным будуць удзячны тысячы людзей, асабліва тыя, што жывуць на забруджаных пасля Чарнобыля тэрыторыях. Хай жа толькі яго будзе ўдосталь і па даступнай цане.

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

"Литературная газета" (Масква) дае ў кожным сваім нумары традыцыйны "Парад цытат". У "ЛГ" № 36 (5802) за 6—12 верасня г.г. сярод чарговай падборкі цытат адна належыць дзяржсакратару Саюза Беларусі і Расіі П. Барадзіну. Гучыць яна так: "Такога бардака, як у Савеце Расіі і Беларусі, нідзе не бачыў, хаця і аб'ехаў увесь свет".

СВЯТЫ

# На радзіме першадрукара



Своеасаблівым працягам Дня беларускага пісьменства стала скарынаўскае свята кнігі, якое прайшло ў мінулую нядзелю на радзіме ўсходнеславянскага першадрукара ў старажытным Полацку. Гэта ўжо дваццатае свята, якое, па традыцыі, адкрываецца на цэнтральнай плошчы горада ля помніка Францішку Скарыне і працягваецца ў бібліятэках, музеях, на адкрытых пляцоўках.

На гэты раз для ўдзелу ў фэсце разам з палачанамі прыехалі госці — дэлегацыя Саюза беларускіх пісьменнікаў на чале з намеснікам старшыні саюза Навумам Гальпяровічам, у складзе якой былі пісьменнікі-землякі, ганаровы грамадзянін Полацка Алесь Савіцкі, Іван Стадольнік, начальнік упраўлення Дзяржкамдруку Мікалай Станкевіч, старшыня ваенна-шэфскай камісіі Саюза пісьменнікаў Яўген Каршукоў.



На плошчы ажылі героі сівой даўніны — Францішак Скарына, Сімяон Полацкі, Еўфрасіння Полацкая — у выкананні самадзейных артыстаў у вялікім тэатралізаваным прадстаўленні. Затым выступалі госці і мясцовыя літаратары. Дарэчы, сёння на Полаччыне жывуць і працуюць пісьменнікі Герман Кірылаў, Ірына Жарнасек, Лера Сом, Лявон Неўдах, Ірына Дарафейчук і іншыя, тут плённа дзейнічае літаб'яднанне "Наддзвінне", філіял абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў, літаратурны саюз "Полоцкая ветвь", Таварыства вольных літаратараў. Мясцовая друкарня імя Ф. Скарыны выпусціла шэраг кніг мясцовых літаратараў, альбом песень вядомага самадзейнага кампазітара Мікалая Пятрэнкі.

Цікавыя сустрэчы гасцей і ўдзельнікаў свята адбыліся ў цэнтральнай бібліятэцы горада, у музеі беларускага кнігадрукавання. Пад скляпеннямі Сафійскага сабора гучала арганная музыка.

Свята засведчыла, што на радзіме першадрукара шануюць роднае слова, кнігу, дбаюць пра традыцыі, духоўнасць беларускага народа. Нездарма з вуснаў гасцей прагучала прапанова зрабіць Скарынаўскі кніжны кірмаш усебеларускім, прыцягваць да яго ўдзелу лепшыя творчыя і мастацкія калектывы краіны, кнігавыдаўцоў, паліграфістаў.

**Н. К.**

*На здымках: у час сустрэчы ў цэнтральнай бібліятэцы Полацка.*

*Фота К. ЖАРНАСЕКА*

# У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

Цікава прайшла вечарына ў Доме літаратара, прысвечаная 50-гадоваму юбілею Галіны Каржанеўскай. Цёплыя словы ў адрас юбіляркі казаў народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, пісьменнікі Алесь Бельскі, Уладзімір Глушакоў, Навум Гальпяровіч, Алесь Пісьмянкоў, землякі пісьменніцы са Слуцка, прадстаўнікі рэдакцыі часопіса "Роднае слова", дырэктар абласной бібліятэкі імя А. Пушкіна Наталля Чуева. У вечарыне бралі ўдзел ансамбль "Менскі гармонік", самадзейныя артысты, школьнікі, заслужаныя артысты Беларусі Аляксандр Лявончык, Уладзімір Мішчанчук, жаночы клуб "Клео" і іншыя.

На вечарыне Галіне Каржанеўскай быў уручаны ганаровы знак Дзяржкамдруку, ганаровая грамата Саюза беларускіх пісьменнікаў, былі зачытаны віншавальныя тэлеграмы ад Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу, міністра культуры А. Сасноўскага.



●

У школах Мінска ў гэтыя дні праходзяць тыдні беларускай мовы і літаратуры, прысвечаныя Дню беларускага пісьменства. У 45-й школе адбылася сустрэча Навума Гальпяровіча і Яўгена Каршукова з вучнямі старэйшых класаў. Госці расказалі пра гісторыю старэйшай на Беларусі творчай арганізацыі, прачыталі свае творы, адказалі на пытанні школьнікаў.

**Н. К.**

АНОНС

# Уверцюра сезона

Ці не падаецца ўважлівым сталічным жыхарам, што ў суквецці афіш новага канцэртна-тэатральнага сезона чагосьці не хапае? Бо насамрэч: не хапае! Улюбёнец самай шырокай публікі Дзяржаўны музычны тэатр Беларусі, які многія мінчукі, паводле нядаўняй звычкі, усё яшчэ называюць тэатрам музкамедыі, не спяшаецца запрашаць гледачоў на сустрэчу ў новым сезоне.

Што ж, ён як ніколі доўга, да канца ліпеня, даваў спектаклі ў Мінску. Але час летніх адпачынкаў мінуў, і артысты зноў рыхтуюцца да выхаду на сцэну. Як паведаміў нам галоўны дырыжор Дзяржаўнага музычнага тэатра Аляксандр Сасноўскі, новы творчы год плануецца пачаць нетрадыцыйна: гастролямі. Па запрашэнні кіраўніцтва Магілёўскай абласной філармоніі на чале з дырэктарам Уладзімірам Браілоўскім калектыў выступіць у горадзе на Дняпры. Мяркуецца, што на сцэне знанага палаца "Хімвалакно" будуць паказаны папулярныя "іскрынкі" рэпертуару, у тым ліку гала-канцэрт зорак беларускай аперэты і вечар балета. Пачатак гэтага творчага візіту да магілёўчан прызначаны на 18 верасня.



**С. Б.**

*На здымку: "хітом" сёлетняга рэпетуару зрабілася камічная опера Ц. Хрэннікава "Даратэя".*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

ВАРУНКІ

# Кусель хлеба

Васіль ТКАЧОЎ

Ну, вось: і ў мяне, як некалі ў дзеда і бацькі, ёсць свой агарод. Пляц. Іншы раз пагляджу ранкам, як плавае-купаецца ён у тумане, грэшнай справай, бывае, і падумаю: а навошта ён мне, пісьменніку, маё ж месца працы — стол? А тады ўбачу, што праклюнулася на градках расада агурочкаў — учора ж не было, паверце! — і так добра, хораша зробіцца на душы, быццам толькі што закончыў новае апавяданне. А пазней прывабяць вока ўзыходы бурачкоў, морквы, а на яблынях і вішнях першыя малюпасенькія круглячкі. Усё расце. Табой пасаджанае. За пісьмовым сталом творы кожны дзень не пішуцца, таму радасць жыцця знаходжу тут, на агародзе. Ад вясны да глыбокай восені.

Хоць многія, перакананы, дзівяцца: навошта ўвесь гэты клопат яму? А трэба, як бачыце. Толькі ж кожнаму не будзеш пра гэта тлумачыць. Ды і няма калі — пара выбіраць агурочкі. Сёлета іх урадзіла неспадзявана шмат. На сям'ю хопіць з каптурком, як кажуць. А куды ж астатнія падзець? Успамінаю пра дзядоў, сваякоў, суседзяў. Сусед раіць прадаць лішкі на базары, а на выручаныя грошы купіць цукру ці яшчэ чаго. І дадае: трэба ж нейкі і наварак мець з агарода. Я нічога не адказваю яму, а толькі ўяўляю сябе сярод гандляроў, і чамусьці перад вачыма з калейдаскапічнай хуткасцю праносяцца твары людзей, якія могуць прыйсці купіць мае агурочкі, — і такіх набіраецца даволі багата. Уяўляю таксама, як некаторыя з іх разінуць ад здзіўлення рот, а той-сёй, упэўнены, пастараецца зусім не трапляць мне на вочы — каб не ствараць, так бы мовіць, экстрэмальную сітуацыю. А потым па горадзе сярод маіх знаёмых пакоціцца: "Ну, калі ўжо пісьменнік прадае на базары агуркі, то, сябры мае, дажыліся, скажу вам!" Пра гэта я і суседу зазначыў. Ён хмыкнуў: "А ты што — украў? Свае ж! Абы агуркі былі добрыя".

Агуркі быццам бы нічогія — і прыгожыя, і смачныя. Але ж, браткі мае, псіхалагічны фактар тут сваю не апошнюю ролю адыгрывае. Недзе там, за мяжой, дык, можа б, ніхто і не звярнуў увагі, а ў нас... Сумняваюся. Ды і сам не анёл — сорамна, калі шчыра, прадаваць агурочкі. Бо той жа патэнцыяльны пакупнік можа падысці, усміхнуцца і сказаць: "А я вас ведаю..." Назаве прозвішча і скажа, што бачыў па тэлебачанні, чытаю ў газетах. Скажа гучна, на ўвесь базар. У дызелі, што возіць мяне на агарод, такіх прызнанняў начуўся нямала. А то яшчэ пачне чытаць свае вершы. Гэта яшчэ страшней.

Так што зусім няпроста зарабіць на кавалак хлеба. А есці хочацца. Кожны дзень. Ганарары пайшлі мізэрныя, калі суадносіць да цэн. Раней за апавяданне, надрукаванае, напрыклад, у тыднёвіку "Літаратура і мастацтва", я атрымліваў 200 рублёў і мог купіць амаль сто кілаграмаў мяса, хоць мне столькі яго і не трэба было; а сёння — толькі тры-чатыры. За тое ж апавяданне, што прагучыць па радыё, атрымаеш столькі, што і на адзін кілаграм не разлічвай. А трэба ж квартплату заплаціць, нешта з адзення купіць, пачак паперы за 2 900, а жыву я не адзін, а з жонкай, якая працуе "галоўным аграномам" на агародзе. Уго, колькі чалавеку яшчэ трэба, калі яму ўсяго 52 гады!

Дык што, можа, і праўда паслухаць суседа, набрацца смеласці і мужнасці, ды і пачаць гандляваць рэшткамі ўсяго, што вырасціў сваімі ж рукамі на сваім жа агародзе? Пакуль думаю, усё ўзважваю, пачынаю ўспамінаць, як зараблялі свой кусель хлеба мае родзічы, дзяды і бабулі, бацькі. Цяжка зараблялі, няпроста Дзед Якаў, мамін бацька, рабіў недзе і ў грабарах, а так увесь час у калгасе. Чалавек ён быў патрабавальны, строгі і сур'ёзны, то яму давяралі звычайна сталую работу — выдаваць вупраж, даглядаць коней. У нашай Гуце рачны бераг раней глядзеў на чалавека жывым мелам, і дзед — сёння і ў галаву такое не ўкладваецца! — рабіў мялоўкі і насіў на плячах прадаваць у Магілёў — за 70 з гакам кіламетраў! А першую пенсію атрымаў дзед Якаў на пачатку шасцідзесятых гадоў — 12 рублёў. Якраз у той час я атрымаў і свой першы ганарар за апавяданне, надрукаванае ў часопісе "Вясёлка". Ганарар быў на тры рублі большы, чым дзедава пенсія. І я, бачачы такую, на маю думку, несправядлівасць, аддаў усе грошы дзеду. А ён усміхнуўся ў белыя вусы, параіў больш пісаць.

Вось які быў кусель хлеба ў майго дзеда. Таму ён не шкадаваў апошніх грошай, каб і дзеці вучыліся. "Мо хоць яны будуць лягчэй жыць". Мама і цётка Ніна, пухам зямля ім, закончылі педінстытут, усё жыццё настаўнічалі. І жылі ж, натуральна, лягчэй, чым бацька: па тым часе настаўнікі і зараблялі добра, і льготы мелі.

Дзед Аўгей, таксама гутленец, лічыўся заядлым рыбаком. Калі і ўбачыў я ўпершыню сома, дык у ягонай хаце. Таксама калгаснікам быў, землеробам і даволі сур'ёзным садаводам, амаль усе 50 сотак зямлі былі пад пладовымі дрэвамі. У канцы лета ці на пачатку восені дзед Аўгей адбіраў лепшыя яблыкі, пакаваў іх у скрынкі і браў кірунак на шлях — так звалі ў нас дарогу Адэса—Санкт-Пецярбург, лавіў спадарожную машыну, якая падрульвала неўзабаве да скрынак, загружаў іх у кузаў — і ехаў, смелая душа, гандляваць яблыкамі некуды за Маскву. Баба Аксіння доўга чакала старога, а дзед вяртаўся з тугім пукам грошай, з падарункамі-ласункамі і цвярозы. А тады ўжо купляў у краме бутэльку віна, наліваў сабе і бабулі, і яны, шчаслівыя, выпівалі. За ўдачу.

Чамусьці запомнілася, што ўвесь час на дзедавым двары стаяла конная касілка — па тым часе гэта, мабыць, КСК-100 ці "Палессе" — дзед прыводзіў каня, запрагаў у аглоблі і стрыг траву на лузе ці непадалёк на поплаве.

Так і ён зарабляў сабе на хлеб.

Дзед Якаў пражыў 80, дзед Аўгей крышачку менш, бабулі Палагея і Аксіння намнога перажылі сваіх гаспадароў. Елі толькі свой хлеб — у прамым і пераносным сэнсе. Дзяды курылі свой самасад. Не мелі тэлевізара. Вечары бавілі то ў Мікіты Аўдзеева, то ў дзеда Якава, то ў Сцяпана Данілава, брата дзеда Аўгея. Да дзеда Аўгея не хадзілі — ён жыў у бярэзніку, далекавата. Газеты чыталі, найбольш — раёнку і абласную, і ў першую чаргу той слупок, дзе было пра скасаванне шлюбаў. Дзівіліся: "І чаго ім там, у горадзе, не жывецца? Сядзяць жа, нехрысці, на ўсім гатовым..."

Калі яны і памыляліся, мае продкі, то ў ацэнцы гарадскога жыцця, бо проста не ведалі яго. Даруем. "На гатовым" каб пасядзець, трэба патэпаць. Грошы грашыма, але ж трэба і па крамах пахадзіць, і ў чэргах, і каля пліты выстаяць. Іншы раз, мусіць, лягчэй чалавеку на сваіх градках парачкаваць, чым у той чарзе млець. Але ж трэба — такое выбрана жыццё. Гарадское. Ніхто сілком не навязваў.

А, можа, таму ў горад і лезлі мы, што хацелася пажыць на "ўсім гатовым", што там бачыўся нам лёгкі хлеб? А лёгкі хлеб, як пазней высветліцца, не заўсёды смачны, сытны. Іншы раз нават бывае горкім. Дома ж, у вёсцы, сярод сваіх людзей, усё крышачку інакш. Усё крышачку прасцей, чысцей, святлей.

Сёлета я крыху схібіў — летась быў няўрод бульбы, накапаў 4 мяхі, а пасадзіў 11, таму заняў палову агарода, астатняй плошчы даў адпачыць. Не было насення. Дваюрадная сястра Тамара Андрыянава з Хатоўні траха выручыла — дала колькі мяхоў, пайшла ў ход і выкапаная летась драбяза. Бульба вырасла, ёсць, бо на горцы, зямля не тлустая, і дажджы шкоды не нарабілі. Ёсць бурачкі, морква, фасоля, капуста, гарбузы, кабачкі, пацісоны, боб. Памідоры пачарнелі — фітафтора. Усё ж, мусіць, нашы прашчуры былі разумнымі людзьмі: жывучы на балотах, яны і ведаць не ведалі, што такое памідоры і з чым іх ядуць. Старыя людзі кажуць, што і да вайны не высаджвалі памідоры. Я веру ім і спадзяюся, што некалі ў нас будуць гатункі, якія ніякая трасца не возьме. Ці надта цяжка ў наш век зрабіць?

Не расправіў плечы і перац. Дужа замораны нейкі, хоць цвету было шмат. Затое ўжо сад дае ўсе падставы парадавацца, за ўсе гады аддзячыў. Белы наліў, антонаўка, жытнікі, штрыфель, слава пераможцу, а таксама слівы, маліна... Усяго паўнютка. Нават разгубіўся — а куды ўсё гэта падзець? Для маёй сям'і з двух чалавек (у двух сыноў свае сем'і, жывуць асобна) замнога столькі дарункаў, і я спрабую прапанаваць нешта суседзям-вяскоўцам: вазьміце, людзі добрыя, у вас жа скацінка ёсць, згрызуць кароўкі ды парсючкі. Відаць, каб толькі не пакрыўдзіць мяне, суседзі бяруць, але робяць гэта, бачу ж, не надта ахвотна, у вачах так і чытаеш: свае няма куды дзяваць, ну ды ладна... Але ж ім, заўважаю, шкада майго дабра: прападае той жа яблык, а вясковыя людзі не любяць, калі нешта вырашчанае на зямлі трапляе не па прызначэнні. Добра ведаю гэта і па сваёй маці. У яе ўсё ішло ў вытворчасць, калі можна так сказаць. нічога не прападала. Нешта ела карова, нешта еў парсюк, нешта куры, качкі, індыкі. Да апошняга амаль свайго дня трымала жыўнасць. Цяжка было, але не маглі мы, дзеці, адгаварыць, тым больш што бацька без рукі, не ўсю мужыцкую працу мог па гаспадарцы агараць. Але інакш жыць старыя не хацелі. Праўда, мелі ўсё, для гасцей багаты стол накрывалі, гэта ўжо адназначна. А людзей любілі яны прывячаць. Чамусьці ў нас заўсёды былі кватаранты — настаўнікі, калгасныя спецыялісты. Забягалі і землякі, каб расціснуць паўлітэрку. Маці не паганяла, а давала чым закусіць. Пра гэта яна мне неяк сказала: "Дасі чалавеку раз, ён табе — два".

Мо таму, разважаю сёння, у маёй маці ўсё і было?..

Звычайна раніцай і ўвечар я пішу. Як вось і гэтыя публіцыстычныя нататкі. Хоць улетку, трэба прызнацца, пішацца не вельмі: на тым жа агародзе клопату хапае, таму пастаянна крыху натомлены. Ды побач і лес, а ў ім грыбы растуць, і калі гараджане едуць сюды з кошыкамі за некалькі кіламетраў, то як мне, седзячы на баравіках-прыгажунах, не збіраць іх? Люблю я надта гэты занятак. З дзяцінства. А бываючы ў лесе, успамінаю, як бацька заўсёды нам, малечы, толькі ступіўшы на ўзлесак з кошыкам, абавязкова нагадваў паэтычныя радкі: "Толькі, хлопцы, з дагаворам: не бярыце мухамораў, мухамор — не баравік, ён не пойдзе ў залік". Бацька быў настаўнікам і ўсе вершы ведаў на памяць.

Баравікоў, падасінавікаў і абабкаў хапае ў нашым лесе. Стараюся не прапусціць апенькі і маслякі. Ледзь забавіўся — і можна застацца без гэтых грыбоў, выберуць. Але ж мае грыбы ўсё роўна застаюцца мне. Высокі, крэпенькі баравік можна знайсці нават на сцежцы, па якой прагалёкалі дзесяткі чалавек. І як толькі не ўбачылі?! Я ж, зрэзаўшы яго, пачынаю думаць, што гэта — мой грыб, а не чый-небудзь. Ён чакаў мяне і дачакаўся. Таму грыбы, як вы і здагадаліся, заўсёды ўзімку дапаўняюць наш стол, яны някепскі прыварак да куселя хлеба.

Неяк паміж пісанінай і іншымі клопатамі прыкінуў на аркушы, колькі затраціў сёлета грошай на свой агарод. Атрымліваецца: на ўгнаенні 12 тысяч, затраты на пасадку, уключаючы аплату за каня і магарыч — 10 тысяч, паскародзіць — 2 бутэлькі гарэлкі (можна адэкватна разлічыцца і грашыма), акучванне тры разы — такая ж такса. Коней у брыгадзе няма, але ёсць у вяскоўцаў, конь — не праблема, былі б грошы.

Далей. На 6 тысяч купіў прэпаратаў ("Дзецыс", "Шэрпа") для барацьбы з каларадскім жуком. Адрамантаваў стары апырскавальнік, цяжкі і капрызны, таму для падстрахоўкі купіў на базары нейкую дудку, якая аказалася надзвыя зручным апаратам: ім і карыстаўся ўсё лета. Першы выпадак: танна і працуе.

Каб выкапаць бульбу, планую затраціць яшчэ 15 тысяч. Учора, дарэчы, сусед скасіў бульбоўнік за 2 тысячы рублёў. За дзве гадзіны з трыма перакурамі. Я пазайздросціў яму: такія грошы за сваім пісьмовым сталом я, магчыма, і зараблю за той жа час, што і ён зарабіў, але калі атрымаю — невядома. Цяпер у рэдакцыі малавата сродкаў. На двары жнівень, а ў майскім нумары часопіс "Полымя" надрукаваў тры мае апавяданні, а ганарару пакуль няма. Сусед жа мае свой заробак адразу, як толькі закінуў на плячо касу. І, прынамсі, пра падатковую інспекцыю ён нават не чуў, а мне пра ганарары напомняць, абавязкова, ды такім пагрозлівым тонам, быццам я нешта ўкраў у дзяржавы, хоць дзяржава бярэ з мяне. Не, я не супраць падаткаў. Але ці не перастануць людзі зусім пісаць у газеты, калі іх за тыя капейкі пачнуць адрываць ад працы, прымушаць рабіць копіі дакументаў, за што даводзіцца плаціць больш за атрыманы ганарар? Тут нешта не так. Будзем спадзявацца, што падшліфуецца штосьці ў падатковым кодэксе...

Але ж давайце падсумуем: 54 тысячы рублёў патрачана на бульбяной дзялянцы. Насенне іншых культур, акрамя цыбулі, было свае. Сяўка набылі на 5,5 тысячы рублёў. Акруглім: 60 тысяч. Здавалася б, купі за гэтыя грошы бульбы сабе і жыві спакойна. Гэта толькі на першы погляд, так здаецца. Нічога за гэтыя грошы сёння ўжо не купіш, тым больш — заўтра. Кілаграм у сярэднім каштуе 100 рублёў. Падлічылі? Ну, дзесяць-адзінаццаць мяхоў. А за лета ўжо тры-чатыры з'елі. Нас жа, нагадаю, тры сям'і, худа-бедна, а па 5 мяхоў трэба. Але ж, заўважце, амаль нічога не патрачана на садавіну і агародніну. Толькі свая праца. Цяпер жа, ёсць насенне бульбы, ёсць крухмал і ёсць бульба, якую пакуль не ведаю, куды прысобіць.

Так што думайце самі, рашайце самі... Як у той песні спяваецца.

Неўзабаве выкапаем бульбу, прывядзём у парадак агарод, і хата ў вёсцы апусцее. Да новай вясны. Усе каштоўныя рэчы, нават тэлеантэну, бо гэтая ўжо не першая, перавозім у горад. Ёсць пару нягоднікаў у вёсцы, якія за бутэльку гарэлкі, даруйце, маці родную прап'юць.

А так усё добра. І настрой някепскі. Зімой можна асабліва не турбавацца пра кусель хлеба: шмат усяго накансервавалі, ёсць позні яблыкі, грыбы ў розных варыянтах.

Што ж тычыцца агурочкаў, то аднойчы, прызнаюся, хацеў поўны мех — як завязаць — адвезці ўсё ж на базар, прадаць. Пакуль вёз — перадумаў: не хапіла ўсё ж смеласці. Агурочкі раздаў суседзям. Няхай ядуць на здароўе.

А цукар я куплю за ганарар, што атрымаю вось за гэты матэрыял. Ці за які другі.

На кусель хлеба мне хопіць.



Фота Ул. КАГУЦЕНКІ

## "Аўцюкоўцы"

**Пра аўцюкоўцаў сёння ведаюць не толькі на Беларусі, а і далёка за яе межамі. А ўсё таму, што паміж вёскамі Малыя Аўцюкі і Вялікія Аўцюкі, якія знаходзяцца ў Калінкавіцкім раёне, праходзяць Усебеларускія фестывалі народнага гумару. Першым жа ўвагу на аўцюкоўцаў звярнуў пісьменнік Уладзімір Ліпскі. Вельмі спадабаліся яму тамашнія жыхары, надзіва вясёлыя, дасціпныя, а анекдотаў столькі ведаюць, што могуць паспаборнічаць нават з сусветна вядомымі габраўцамі. Так і нарадзілася ў**



**У. Ліпскага кніга "Аўцюкоўцы", якая выйшла з друку некалькі гадоў назад. Яна і падказала правядзенне свята сатыры і гумару на калінкавіцкай зямлі. А якое свята сатыры і гумару без жартаў? Нараджаліся новыя анекдоты. І аўцюкоўскія. І пад аўцюкоўскія, але ўсё адно такія, што выклікалі шчыры смех. Ды і ўражанні ў тых, каму ўдалося пабываць сярод жыхароў гэтых вёсак заставаліся самыя прыемныя. Гэта і падштурхнула У. Ліпскага на падрыхтоўку другога, дапоўненага выдання "аповесці пра калінак ды каласкоў, якія гаруюць і жартуюць". Мабыць, усе ўжо добра ведаюць, хто такія калінкі і каласкі, але на ўсякі выпадак патлумачым. Калінкі, паа-аўцюкоўску, жанчыны, каласкі — мужчыны.**

**Сказана-зроблена, і кніга "Аўцюкі" зноў прыйшла да чытача: напярэдадні чарговага Усебеларускага фестывалю народнага гумару жыццё ёй дало Беларускае выдавецкае таварыства "Хата". Спяшалася, каб пабачыла свет своечасова. А там, дзе спех, там і смех. Не абышлося без некаторых памылак, на якія жартаўліва-сур'ёзна ўказвае гаспадар "Хаты" Валер Санько ў звароце "Дарагі Чытач!", апературна змешчаным на трэцяй старонцы вокладкі. Ды калі паапраўднаму смяяцца, смяяцца з усяго, нават з прапушчаных памылак.**

**Гэтае выданне "Аўцюкоў" адрозніваецца ад папярэдняга тым, што ў ім з'явіліся два новыя раздзелы: "Сустрэчы фестывальныя" і "Узнясенне аўцюкоўцаў". Першы апраўдвае падзагаловак: "Смех — не жартачкі". Яшчэ адно пацвярджэнне, як могуць смяяцца... у час фестывалю гумару. Адзін з анекдотаў. "Аўтобус смеху" называецца: "Аўцюкоўскія дзед і баба — у гарадскім аўтобусе. Купілі талоны, працiскаюцца да кампосцера.**

**Баба крычыць дзеду:**

**— Сунь хутчэй, пакуль стаіць!..**

**Аўтобус кранаецца, а ўсе пасажыры дохнуць са смеху".**

**Яшчэ адзін — "За што карміць?":**

**"Аўцюк выйшаў на веранду, зняў кашулю, дыхае свежым паветрам.**

**— Што ты косці выстаўляеш напаказ? — засарамацiла жонка.**

**— А хай людзі бачаць, як ты мяне корміш.**

**— Дык здымі, каласок, і штаны. Хай бачаць, ці варта цябе карміць..."**

**А раздзел "Узнясенне аўцюкоўцаў", як сказана ў падзагалоўку, "слова гаспадарам і гасцям фестывалю". Сваімі ўражаннямі дзеляцца старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь, а ў свой час старшыня Гомельскага аблвыканкама Павел Шыпук, адзін з ініцыятараў і арганізатараў фестывалю Тадэвуш Стружэцкі, народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч, народны артыст СССР і Рэспублікі Беларусь Генадзь Аўсяннікаў і іншыя. Яны выказваюць па сутнасці тое, што хораша прамовіў вершам "Запішуся ў аўцюкоўцы" Генадзь Бураўкін:**

*Шмат і ездзіў я і крочыў*
*У аб'езд і нацянькі*
*І шчаслівы, што аднойчы*
*Завітаў у Аўцюкі.*

*. . . . . . . . . . . . . . . . . .*

*І хай клічуць на бяседу*
*Да генсекаў ці царкоў, —*
*Я нікуды не паеду*
*З фестывальных Аўцюкоў.*

**А да ўсяго кніжка аздоблена цікавымі здымкамі з аўцюкоўскіх святаў.**

**Юрась ВАЙСЁНАК**

КРЫТЫКА

# Постіронія — спроба ачышчэння

Час пост... Постусяго. Чым далей жыве чалавецтва, тым большы мае вопыт —ададатны ці адмоўны, і тым больш у яго магчымасцяў скарыстаць мінулы вопыт для далейшага свайго руху, ці таптання з роздумам пра мінулае і будучае. На жаль, мала хто з людзей можа ўдала падключыць да ўсяго гэтага аналіз цяперашняга, пакідаючы гэту працу наступнікам, якім з вышыні часу заўсёды больш бачна істотнае і неістотнае.

Літаратура з'яўляецца чыннікам, праз якога свет намагаецца вярнуць страчанае ім за час свайго існавання...

У кнізе апавяданняў П. Васючэнкі і А. Вырвіча "Прыгоды аднаго губашлёпа. Аповеды пра Валентага", што выйшла летась у выдавецтве "Рэдакцыя газеты "Прыватны дэтэктыў", гаворка ідзе пра час не так даўно мінулы — савецкі, перадперабудовачны, які большасць з цяперашніх пакаленняў перажылі. А праз мастацкія сродкі, выкарыстаныя аўтарамі зборніка, паўстаюць цэлыя літаратурныя эпохі з імёнамі і героямі твораў Ф. Рабле, Бакачыо, Я. Гашака, прасвечваюць традыцыі беларускага народнага дасціпнага гумару ў выглядзе анекдотаў, айчыннай літаратурнай традыцыі (К. Каганец, К. Марашэўскі, А. Мрый, К. Крапіва і інш.). Творы, змешчаныя ў кнізе, называюцца аповедамі, але ў іх адчуваецца сцэнічны пачатак (узгадаем драматургічную практыку аднаго з аўтараў — П. Васючэнкі).

Асацыяцыі прыводзяць нас да традыцый беларускай батлейкі. Ёсць у творах пэўныя моманты, дзе апісанне герояў і іх дзеянняў нагадвае апісанне і дзеянні батлеечных лялек. Напрыклад, эпізод прыезду нямецкага генерала (аповед "Гарбата для пана генерала"). Постаці і дзеянні-рухі герояў — лялечныя (як заведзеныя лялькі — генерал і генераліха; тыя, хто іх сустракае — лялькі падпалкоўніка, яфрэйтара, прапаршчыка, повара, шарагоўцаў...). Ёсць у тэксце і прамое параўнанне: "А прапаршчык Афонін разпораз выскокваў з намёта, як нячысцік з батлейкі, і аддаваў каманды..." І нездарма героі час ад часу трапляюць у напаўанекдатычныя сітуацыі. Матывы марыянетачнасці з'яўляюцца паказальнікам гратэскавага пачатку ў аповедах, што сумяшчаюць у сваіх тэкстах сатыру і лірызм, гумар і сарказм, трагічнае і камічнае. Пераплятаюцца бурлескавы і травесційныя характары расповеду, за чым стаіць выразная асоба аўтара, што складаецца на самай справе з дзвюх розных (?) асоб.

*П. Васючэнка. А. Вырвіч. Прыгоды аднаго губашлёпа. Расповеды пра Валентага. Мн., 1999.*

У першым аповедзе "Гарбата для пана генерала" чытач патрапляе ў "наша" войска на тэрыторыі былой ГДР, дзе служыць на той час было не толькі ганарова і пачэсна, але і прэстыжна. Іншы ж бок медаля адкрываецца нам праз вобразы герояў, напрыклад, праз недалёкія думкі прапаршчыка Афоніна аб іншых, што, несучы службу, "зарабляюць маркі, купляюць "Лады" і "Масквічы"..., у той час як ён... дагэтуль не старшы прапаршчык...", які забыўся не толькі нямецкія літары, а і свае, рускія, які "выхоўвае" — не маючы ніякага паняцця пра псіхалогію, пра эстэтыку — кулакамі і няўмела пабудаванымі ў заўсёды напаўп'янай галаве вайсковымі штампамі, для якога вышэйшая мара-планка — зорачкі старшага прапаршчыка. Ён мае паставу і голас праваслаўнага бацюшкі, аднак воблік гэты параўноўваецца з "кепска-прымацаванай маскай", бо адзіная высnова, якую ён спасцiг за сваё жыццё: "Усе людзі — свінні". Узгадваюцца аўтарам "крывавыя хлопчыкі з Б. Гадунова", як і паралель ім — "крывавыя салдацікі", што паўставалі ў напаўп'янай свядомасці прапаршчыка. Праўда, аўтар пазначыць, што няшчасныя выпадкі адбываліся "хутчэй за ўсё, не па асабістай віне" Афоніна, а за гэтым стаіць неназваная сістэма, дзе віна перадаецца, як цыгарэта, з рук вышэйшага начальства самім шарагоўцам, і пакольку вінаватыя ўсе, то значыць — ніхто.

Вобраз ахвяры свайго часу і парадкаў — "губашлёпа" Валентага Круткоўскага падаецца як бы збоку, з адначасовай аўтарскай выразнай іранічнай ацэнкай. Валенты — "з наівам і рахманасцю ўчарашняга вяскоўца ў вачах", які, каб не пакрыўдзіць "начальства" паслухмяна душыцца ментолавай цыгарэтай, які не пераносіць "свінячых пакут", якому натуральна брыдка назіраць за паводзінамі шарагоўца Азіка ў свінарніку, якому агідна і шкада бачыць здзек вайсковага "віцінара" над жывым пацуком, які фарбуе траву разам з такімі ж губашлёпамі і наважваецца нават пярэчыць, якія запамінае ўсё, каб потым пераказаць аднавяскоўцам і г.д.

Аўтар уводзіць эпізод бесклапотнай гульні "ў мячыка" Валентага з нямецкімі дзяўчаткамі. Уваскрасае час дзяцінства — найлепшы і светлы, калі герой забываецца аб тым, што ён у войску, не разумеючы таго, што нават у дзяцінстве ён ужо належаў абсурднай сістэме, законы якой ненаўмысна парушае зараз, перабліўшы салёную і салодкую ваду для гарбаты генералу. І наўрад ці ён разумее, за што "паліруе" яму твар Афонін, — за тое, што заведзеная праграма, уяўны парадак, які меўся быць, сапсаваны нейкім губашлёпам? У канцы аповеду лялька прапаршчыка Афоніна ажывае — яна плача. Плача і Валенты, але ён больш нічога не ўмее, не навучаны, бяздзейны. Такім мы яго будзем бачыць не раз у іншых аповедах, але ён нідзе не нагадвае ляльку, ён самы жывы з усіх вобразаў, якіх падае аўтар.

Механічную ляльку, якая зраслася ўжо са сваім працоўным месцам і стала часткай штучнага механізму, нагадвае дальнабойшчык з аднайменнага аповеду.

Яркая вобразнасць, якой насычана апавяданне, вылучае яго з шэрагу астатніх. Вобраз дарогі тут падаецца з пункту гледжання "механічных" мазгоў дальнабойшчыка. Галоўнае, чаму вучыць дарога — "яснасці ды грубасці жаданняў". І сустрэча з гэтым простым раскрывае сапраўдную сутнасць кожнай з кузурак, з якімі параўноўваюцца людзі, нявольныя ўдзельнікі руху па дарозе. У пэўныя моманты дальнабойшчык падобны да "чыстага звера", "аўтамабільнага кентаўра", а то проста да куска сала, на якім аўтар у пэўны момант малюе чырвонага камара, раздзьмутага да памераў журавіны. Агіда да камара і да дальнабойшчыка і шкадоба да Райкі, ахвяры Васіля Фёдаравіча, авалодваюць Валентым, але, акрамя "ледзьве не заплакаў" і хуткаімгненнага "забіць" камара і дальнабойшчыка адразу, ніякіх дзеянняў пасля ў Валентага яны не выклікаюць. Зачапіла простае і Райку, выклікала штосьці чалавечае, адвечнае, праўда не надоўга — яна так і не даехала да сваёй мамы і свайго

# Беларусь цікавая славакам

Самабытнасць, нацыянальная адметнасць і наддзвычайная чалавечнасць заўсёды вызначалі і вызначаюць беларускую літаратуру. Менавіта гэтымі якасцямі яна прыцягальная сусветнай супольнасці, што знайшло яшчэ адно пацвярджэнне — у публікацыі твораў нашых пісьменнікаў аўтарытэтным славацкім часопісам "Рэвю сусветнай літаратуры" ("Revue svetovej literatury"), які летась адзначыў 35-годдзе. Галоўны рэдактар Ярміла Самцава мэтай сваёй дзейнасці выбрала сапраўднае мастацкае слова, якое набывае канкрэтныя абрысы, формы, сюжэты, вобразы, народжаныя рознымі нацыянальнымі літаратурамі. Звяртаючыся да чытачоў першага нумара штоквартальніка ў трыццаць шостым годзе выдання, яна гаворыць і пра беларускі матэрыял — "апавяданні з магічнай прывабнасцю і сэнсам, гумар і шмат іншага". Да Беларусі і яе літаратуры, культуры, сучаснасці Я. Самцава паставілася зацікаўлена, з вялікай увагай і прыязнасцю. Можа, таму, што наш народ падобны да славакаў сваім менталітэтам, ішоў амаль такім жа пакручастым гістарычным шляхам. А блізкасць лёсу, культурна-эстэтычных каштоўнасцей і этычных поглядаў паспрыяла ў працы перакладчыкам.

Юрай Андрычык, напрыклад, здольны паэт, плённа і здаўна перакладае з украінскай і беларускай моў (як правіла, з арыгінальных тэкстаў). Наша літаратура, дзякуючы яго руплівасці, знайшла тонкае пераўвасабленне ў анталогіі беларускай паэзіі, кнігах Максіма Багдановіча і Максіма Танка, зборніку беларускіх казак, іншых выданнях. Нездарма, гаворачы пра яго дзейнасць на прысвечанай перакладу канферэнцыі ў Прэшаве, даследчыца Любіца Бабатава адзначыла: "У прозе, як і ў паэзіі, ён выбірае для перакладу памайстэрску напісаныя і лінгвістычна дасканалыя творы, тыповыя для часу свайго ўзнікнення і для стылю іх аўтара". Безумоўна, такімі ўласцівасцямі вызначаюцца творы Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Людмілы Рублеўскай, Віктара Шніпа, Міхася Скоблы, Людкі Сільновай, перакладзеныя Юраем Андрычыкам для "Рэвю сусветнай літаратуры".

"У вашай паэзіі прыгожыя і незвычайныя вобразы", — сказаў мне, прабегшы поглядам па радках Шніпавай "Ружы", паэт Ян Замбар, якому належыць ініцыятыва публікацыі падборкі. Значыць і ў славацкім пераўвасабленні беларуская паэзія застаецца адметнай, да чаго ў поўнай меры прычыніўся перакладчык Ю. Андрычык.

Іншым, але таксама свядомым шляхам прыйшоў да беларускай паэзіі паэт, перакладчык і выдавец Уласціміл Ковальчык. Яго сталым захапленнем называюць творчасць наватараў свайго часу. Якім, напрыклад, з'яўляецца славацкі паэт папярэдняга стагоддзя Сама Богдан Гробань. Летась у славацкім штотыднёвіку "Кніжнае рэвю" сярод самых яркіх паэтаў нашага, XX-га, стагоддзя У. Ковальчык назваў Алеся Разанава, творчасць якога адкрыў для сябе, дзякуючы рускім і польскім перакладам. Завочна пазнаёміўшыся з самім аўтарам, ён апублікаваў па-славацку некалькі яго твораў. Зразумела, што і для "Рэвю сусветнай літаратуры" У. Ковальчык падрыхтаваў вершы А. Разанава, адзначыўшы ў каментарыі, што аўтар піша фармальна вытанчаную і змястава арыгінальную наватарскую лірыку. Пры гэтым "яму не бракуе ведання здабыткаў сучаснай сусветнай паэзіі і міфалогіі", што ў сінтэзе стварае непаўторны разанаўскі стыль.

Шлях кроўнай еднасці, прывёў да перакладу нашай прозы Сільвію Семакаву: беларуская і славацкая кроў спеліць яе дзяцей — дачушку Даніэлу і сына Вячаслава. На радзіму свайго бацькі-беларуса Гарадзеншчыну разам з сваёй матуляй яны прыязджаюць штогод. Як уважліва, асцярожна і ўдумліва С. Семакава знаёмілася з тэкстамі, мне пашчасціла быць сведкай. Яна падрабязна распытвала не толькі пра значэнні асобных беларускіх слоў, але і пра іх рэфлексію ў культуры, гісторыі. Метад яе перакладчыцкай дзейнасці я б назвала эстэтычна-філасофскім. Гэта спагадлівая душэўная жанчына адчула паўтоны сэнсу, тонкасці стылю, іх вобразна-культурны фон. З перакладзеных ёю апавяданняў у часопісе апублікаваны "Упрочкі" П. Васючэнкі і "Цвеpазілаўка" А. Федарэнкі.

Беларуска-славацкай праблематыкай, у тым ліку ў галіне перакладу, С. Семакава цікавіцца даўно, неаднаразова выступала з ёю на навуковых канферэнцыях, чытала свае даклады ў Мінску і Гародні. Яна выявіла сваю літаратуразнаўчую дасведчанасць пры перакладзе ўступнага артыкула "Літаратура катастроф і лабірынтаў", напісанага спецыяльна для славацкай падборкі П. Васючэнкам, які аналізуе асноўныя жанры і плыні сучаснай беларускай літаратуры ў непарыўнай сувязі з яе вытокамі і нязбыўнымі вартасцямі.

Традыцыі і народныя ідэалы С. Семакавай удалося заўважыць і перадаць у перакладах калядак, прысвечаных галоўнаму персанажу гэтага яркага зімовага свята — казе. Дарэчы, і ў славакаў ёсць аналагічнае свята і падобныя звычаі і абрады. Шмат агульнага маюць не толькі нашы культуры, мовы, але і літаратуры, напрыклад, іх асаблівая ўвага да народнага вопыту творчага карыстання словам, іх моцная лірычная стыхія, іх адраджэнская сутнасць. Цытаваныя ў артыкуле радкі верша Алеся Пісьмянкова звяртаюць да трагічных, драматычных калізій, што напаўняюць беларускі паэтычны свет эмоцыямі і шчымлівым пачуццём ад няспраўджаных пад няўмольным лёсам надзей.

С. Семакава са шкадаваннем адзначыла, што перакладзены ёю біяграфічныя звесткі ў часопіс не трапілі. Некаторыя недакладнасці звязаны з перадачай на славацкую мову беларускіх прозвішчаў, у прыватнасці мастака М. Селешчука, чыя рэпрадукцыя выбрана ў якасці ілюстрацыі да беларускага кантэксту. Асобна трэба спыніцца на нязменнай славацкамоўнай традыцыі далучаць да прозвішчаў жанчыны фіналію -ова, нават калі суфікс -ов- ужо прысутнічае. Так, Людка Сільнова ў славацкай інтэрпрэтацыі гучыць як Сільновова, а аўтар гэтых радкоў называецца Валерыя Ляшкова, а не Вікторыя Ляшук.

Пра каштоўнасць інфармацыі ў плане яе практычнага выкарыстання я пачула ад выкладчыка беларускай мовы Віталя Маслоўскага, які ўжо некалькі гадоў працуе на філасоф-

ж "шакаладнага" дзіцяці. Жыццё інакшае, чым уяўляе яго Валенты, а рэакцыя яго на гэта звыклая — "рагатаў разам з усімі, хоць яму чагосьці было моташна".

Простае ўварвалася ў жыццё траіх і кранула па меншай меры дваіх з іх, але ўсё засталося без змен. Душы іх аказаліся застылымі, падобна дарожнаму пакрыццю на дарозе, з якой збочылі героі і павінны былі штосьці зразумець на момант, але вярнуліся на яе ж.

Вызначальна тое, што аўтары ў кожным з аповедаў ставяць сваіх герояў перад выбарам, якога героі не робяць у сілу розных прычын, а часцей за ўсё — губашлёпства.

У аповедзе "Гульня ў "Спортлато" Валенты не пазбягае спакусы савецкіх часоў — надзеі на выйгрыш у "Спортлато", а папросту спадзяванне на халяву. У любы час існуе гэткая спакуса, разлічаная на губашлёпаў (накшталт цяперашняга "Поля цудаў"). Але цікавасць уяўляе тут збіральны вобраз жыхароў інтэрната, дзе адбываюцца падзеі ў аповедзе. Фінал, як і ўвесь аповед, кранае непадробнай шчырасцю і праўдападобнасцю дэталей інтэрнацкага жыцця. Твор уяўляе сабой іронію ў дачыненні да перавыхавання адмоўнага тыпу, Хаменкі, калектывам.

Аповед пяты "Сон пра белую ружу" мае эпіграф на іспанскай мове, які перакладаецца так: "Я вырошчваю белую ружу для шчырага сябра, які мне працягвае сваю верную руку...". На перавернутых асацыяцыях з гэтымі радкамі пабудаваны іранічны сюжэт апавядання з "крутым фіналам" з расчараваннем Валентага, з жарсцямі яго суседа Хаменкі... і шмат яшчэ з чым, але ёсць такі няпісаны закон — у сапраўдные каханне трэба альбо верыць, альбо не верыць зусім, напалову, па-губашлёпску — нельга. Мары ж Валентага аб Ёй "здзейсніліся ў пачварнай форме", як гэтага можна было і чакаць ад губашлёпскіх адносін да ўсяго.

У кнізе ўвогуле адсутнічае дадатны герой, якога па прывычцы чакае чытач. Але не забудземся, што галоўны герой у гэтай кнізе — смех, смех ачышчальны. Няхай гэта і постіронія, але з цяжкай ношай грахоў развітацца ніколі не позна. Разам з аўтарамі і героямі гэтай кнігі чытач праходзіць па свайго роду "пякельных кругах" жыцця, дзе часам брудна, не бачна выйсця, але вышэй ёсць — смех, а смех над заганамі, уласнымі ці чужымі, заўсёды ўзвышае.

**Наталля СУПЕЙ**

ЮБІЛЕІ

# Ступаў па цаліку

## ДА 140-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Кандрата ЛЕЙКІ

У гісторыі беларускай дзіцячай літаратуры яшчэ вельмі шмат "белых плям". І прычына не толькі ў замоўчванні некаторых аўтараў. Часам яны пісалі па сутнасці для сябе, толькі зрэдку выступаючы ў перыядычным друку. Падобны лёс напаткаў і Кандрата Лейку, а "ў гісторыі новай беларускай паэзіі ён — першы дзіцячы паэт", як сведчыць Алег Лойка. А. Лойка першым і вярнуў К. Лейку з небыцця, расказаўшы пра яго ў другой частцы "Гісторыі беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд" — сваім грунтоўным даследаванні пра тое, як фарміравалася і развівалася нацыянальнае прыгожае пісьменства для дзяцей.

Нарадзіўся К. Лейка 17 верасня 1860 года ў вёсцы Збочна былога Слонімскага павета. Вучыўся ў Азярніцкім вучылішчы, Свіслацкай семінарыі, пяць гадоў настаўнічаў, але па стане здароўя пакінуў Беларусь. Працаваў на Украіне, ды абвастрэнне хваробы ў 1918 годзе прывяло да паралюша ног. Прыкаваны да ложка, К. Лейка апошнія свае гады правёў у брата Івана ў горадзе Здалбунаве на Валыні, дзе і памёр 6 верасня 1921 года.

Дэбютаваў як паэт вершам "Зязюлька" ў сорак трэцім нумары газеты "Наша Ніва" за 1911 год. А ў 1914 годзе прапанаваў "Нашай Ніве" рукапіс зборніка "Засеўкі", але кніжка не выйшла, бо пачалася першая сусветная вайна. У тыя гады К. Лейка ў друку выступаў больш як празаік. Апавяданні яго запомніліся Максіму Гарэцкаму. Пазней у сваёй "Гісторыі беларускае літаратуры" Максім Іванавіч зазначыў: "надта здольны апавядальнік" і выказаў меркаванне, што "калі пісьменнік нідзе не пагінуў за час вайны і рэвалюцыі, дык можна з пэўнасцю сказаць, што ён зробіцца адным з відных белетрыстаў".

Кандрат Лейка пакінуў пасля сябе і немалую паэтычную спадчыну, якую ўдалося адшукаць слонімскаму настаўніку М. Сідаровічу. У ёй і "дарослыя" творы, але найбольш ярка мастакоўскае дараванне К. Лейкі раскрылася у вершах для дзяцей, у якіх паэт ішоў ад фальклору, добра ведаў псіхалогію маленькіх. У яго творах дакладная рыфма, відавочныя элементы гульні. Як у невялікім вершы "Сарока",

*Сарока-белабока*
*Па хаце скакала,*
*Рагатала, вярцелася,*
*Дзетак забаўляла.*
*На ёй белы фартушына,*
*Чорненька сукенка,*
*І гаворыць і шчабеча*
*Дробна, як паненка...*

Вершы "Журавель", "Птушкі", "Верабей" (у К. Лейкі "Гарабей"), "Рабко", "Песня ластаўкі", "Бусел" і іншыя сведчаць, што К. Лейка, відаць, меўся напісаць для дзяцей кніжку. А гэтай працы хутчэй за ўсё перашкодзіў ад'езд з Беларусі, калі ў яго ставала іншых клопатаў ды і здароўе не дазваляла плённа працаваць. А кніга магла б атрымацца цікавай, бо творы, што з'явіліся ў К. Лейкі для хлопчыкаў і дзяўчынак, набліжаны да жыцця, яны ў меру пазнавальныя, а таксама павучальныя. Праз няхітрыя сюжэты аўтар імкнуўся пашырыць кругагляд дзяцей, даць ім уяўленне аб навакольным свеце, аб тых, хто жыве з імі побач.

Цікавым атрымаўся верш "Рабко", у якім паўстае звычайны малюнак вясковага жыцця:

*Рабко верна ў нас служыць*
*І жыве сабе, не тужыць:*
*Удзень грэецца на сонцы,*
*Ноччу дрыхне на саломцы.*
*Пільнуе ён гумно, садок,*
*З двара не ступіць ні на крок...*
*Але тады толькі брахне,*
*Як хто ў бок нагой штурхне.*

Няцяжка заўважыць, што К. Лейка, гаворачы пра Рабко, дае зразумець дзецям, што сабака гэты лянівы. А ўжо ім самім разбірацца: хваліць Рабко ці абурацца яго лянотай.

Маральны ўрок дзеці атрымаюць і тады, калі пазнаёмяцца з вершам "Муха". Галоўная гераіня твора, калі можна так сказаць, скардзіцца на лёс:

*— Цэлы дзень лятаю,*
*Гарую,*
*Працую,*
*А долі не маю, —*
*Жалілася муха*
*Седзячы*
*І гледзячы*
*Воліку ў вуха.*

Ды волік, нядоўга думаючы, гаворыць усю праўду:

*— А за тое маеш*
*Плягу*
*І знявагу,*
*Што ўсіх кусаеш, —*
*Вол тлумачыў мусе.*
*І тут коль,*
*Зуд і боль*
*Ён пачуў у вусе.*

У заключных радках — уся мараль верша. Муха засталася мухай, праўды не любіць і яна ей не патрэбна.

Для дзяцей К. Лейка напісаў і сцэнічны абразок "Снатворны мак", у якім, нібы жывыя, дзейнічаюць Мак, Званочак, Ружы, Разяда. Паводле сюжэта добры Дзед-Лесавік дае Званочку чароўны парашок. Той, хто вып'е іх, можа стаць усёчуйным і ўсёвідушчым. Званочак выпрабоўвае чароўны парашок на сваім лепшым сябры Маку. Той засынае і бачыць, што яго сябры аказаліся не тымі, за каго ён іх прымаў. Яны спяшаюцца захапіць красу і нектар Маку. І зачароўваюцца. Але Мак не зласлівы, ён дазваляе адчараваць уяўных макавых сяброў...

Алег Лойка ўпэўнены: ёсць падставы "адносіць імя К. Лейкі да першапачынальнікаў новай беларускай літаратуры XIX ст., ставячы яго ў адзін шэраг з В. Дуніным-Марцінкевічам, Ф. Багушэвічам, Я. Лучынам". Застаецца толькі дачакацца часу, калі можна будзе парадавацца кніжцы, у якой будуць прадстаўлены творы К. Лейкі.

**Язэп ЛІТВІНОВІЧ**

скім факультэце Прэшаўскага універсітэта. На аснове публікацыі студэнты пішуць рэфераты, параўноўваюць арыгінальныя і перакладныя тэксты — пашыраюць веды пра Беларусь, яе культуру і літаратуру. І хоць не ўсе падрыхтаваныя творы перакладзены і надрукаваны ў часопісе, больш за трыццаць персаналій змяшчае ўступны артыкул, а гэта значыць, беларуская літаратура працягвае сваё ўключэнне ў сусветную парадыгму.

На старонках "Рэвю сусветнай літаратуры" з нашымі аўтарамі суседнічаюць датчане Й.Броўверс, Й. Херцберг, Ц. Нотебом, англа-амерыканскі творца Т. С. Эліот, венгры П. Завада, Л. Дарвашы, Л.-П. Нагі, канадцы Д. Кулікова-Кефер, М. Галант, Д.-Б. Кін; у рубрыцы "Маладыя галасы" — швейцарац П. Зускінд, амерыканец П. Шыман...

Публікацыя ў Славакіі твораў беларускай літаратуры — працяг шматгадовых сувязей нашых краін, якія ярка адлюстроўвае бібліяграфічнае выданне, апублікаванае ў канцы 1999г. у Прэшаве — "Беларуская літаратура ў Славакіі пасля 1945 г.". Яго аўтар даследчык Й. Шэлепец ва ўступе адзначае: "Беларускі народ у славацкіх навуковых працах быў аналізаваны і прадстаўлены як самабытны славянскі народ, які мае сваю ўласную літаратурную мову, сваю самабытную культуру і сваё неад'емнае месца ў сям'і славянскіх і індаеўрапейскіх народаў. У літаратуразнаўчых працах пра беларускую літаратуру пачалі пісаць як пра паўнавартасную нацыянальную літаратуру, якая мае сваё гістарычнае карэнне і багатыя традыцыі, што сягаюць у далёкую старажытнасць. Нарэшце і славацкая перакладчыцкая школа... прыйшла да ўмовы перакладу мастацкага твора з мовы арыгінала".

Бібліяграфія змяшчае пералік перакладзеных з беларускай мовы фальклорных твораў (казак), паэзіі, прозы, драматургіі. 42 беларускія аўтары і 34 славацкія перакладчыкі прычыніліся да ўключэння нашай літаратуры ў славацкі кантэкст, у культурныя веды, якія ў свой час рупліва і самааддана пашыралі Фёдар Янкоўскі, Пятрусь Макаль, Уладзімір Караткевіч, працягваюць іх дзейнасць Леў Мірачыцкі, Яўген Каршукоў, Сяргей Законнікаў, мовазнавец Арнольд Міхневіч.

Беларусь цікавая свету. Беларусь адкрывае свет.

**Вікторыя ЛЯШУК**

# "У мяне вельмі многа планаў"

## ДА 100 ГАДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Сымона БАРАНАВЫХ

А было яму, калі пайшоў з жыцця, усяго 42 гады. Памёр у зняволенні як "вораг народа" 10 лістапада 1942-га. Беспадстаўнасць абвінавачвання была настолькі відавочная, што С. Баранавых рэабілітавалі ўжо ў 1954 годзе. Але спатрэбілася яшчэ шмат часу, каб творы пісьменніка прыйшлі да сучаснага чытача. Найбольш поўна мастакоўская спадчына С. Баранавых прадстаўлена ў аднатомніку "Новая дарога", што пабачыў свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура" ў 1989 годзе.

Нарадзіўся С. Баранавых у вёсцы Рудакова цяперашняга Уздзенскага раёна. Праўда, тады ён быў не Баранавых, а Баран — Сымон Баран. Паспеў пабыць і Баранавым. Баран — сапраўдная прозвішча, але падчас службы ў войску нехта палічыў яго немілагучным і перайначыў у Баранаў. Баранавых жа Сымон стаў, калі вучыўся ў Мінску (перад гэтым юнаком парабкаваў, служыў у Чырвонай Арміі, працаваў у роднай вёсцы ў сельсавеце, загадваў хатай-чытальняй). Спачатку — на рабфаку, а пасля на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педфака Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Творчую працу пачаў з селькораўскіх допісаў. У Мінску ўваходзіў у рэдкалегію насценнай газеты "Голас рабфакаўца", а ў 1927 годзе ў "Чырвонай змене" выступіў з апавяданнем "У млыне". Адначасова яго апавяданні былі змешчаны ў часопісах "Беларускі піянер", "Маладняк" і іншых выданнях. Не прымусіла сябе чакаць і першая кніга — ёй стаў зборнік апавяданняў "Злосць", выдадзены ў 1930 годзе. Тады малады пісьменнік вучыўся на перадапошнім курсе універсітэта.

З нагоды выхаду кнігі сябры наладзілі вечарыну, пасля якой Сымон Баранаў і стаў Сымонам Баранавых. Як адбылося гэта, відаць з успамінаў Алеся Пальчэўскага і Яна Скрыгана. Яны крыху розняцца, але сутнасць адна. Як сведчыў А. Пальчэўскі, "хтосьці на курсе заўважыў, што гэта вельмі пашыранае прозвішча і для пісьменніка яно не падыходзіць. І Сымон пачаў прыдумваць сабе іншае. Было абвешчана нешта накшталт конкурсу". А Я. Скрыган прыгадваў: "Захацелася... даць прозвішчу нейкую этнаграфічную акрасу". Я. Скрыган разважаў так: "Хіба ты забыўся, як у вас на сяле гавораць? Ты цяпер вучышся ў Мінску, а калі прыедзеш дадому, то суседзі скажуць: "У Якава Баранавых сын жа ў госці прыехаў. У аснове прозвішча ляжыць сям'я, гняздо, зборнасць, гурт. Адсюль ты і маркуй, як табе пісацца".

Так і з'явіўся ў беларускай літаратуры С. Баранавых. Асобнымі выданнямі выйшлі яго аповесці "Чужая зямля", "Межы" (у тым жа 1930-м), "Новая дарога" (1936), аповесць для дзяцей "Пастка" (1935). Яшчэ ў 1928 годзе малады аўтар стаў членам Беларускай асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. У 1933 годзе, калі стваралася арганізацыя сельскіх пісьменнікаў, адным з першых уступіў у яе. Часта выязджаў у камандзіроўкі, сустракаўся з чытачамі. Але на першым плане для С. Баранавых была творчая праца. Ён хутка звярнуў на сябе ўвагу крытыкі. Найбольшага ж поспеху дасягнуў у жанры аповесці.

Атрымалася свайго роду трылогія — "Чужая зямля", "Межы", "Новая дарога". Пісьменнік паэтапна адлюстроўваў працэсы абуджэння вёскі — сацыяльнае расслаенне напярэдадні вялікіх зрухаў у "Чужой зямлі", пачатак калектывізацыі ў "Межах", нарэшце сама калектывізацыя. Безумоўна, на гэтых творах ляжыць адбітак часу, за рамкі якога С. Баранавых было цяжка вырвацца. Не заўсёды ўдалося і дасягнуць належнага майстэрства. І ўсё ж у творах ёсць цікавыя назіранні над жыццём, дакладна выпісаныя людскія характары.

Сама эпоха з яе супярэчлівасцю і драматызмам вызначыла і задуму рамана С. Баранавых "Калі ўзыходзіла сонца". Пісьменнік збіраўся паказаць "нацдэмаў, як прадажных сабак". Пры гэтым расказваў пра жыццё невялікага беларускага гарадка ва ўмовах белапольскай акупацыі. Праз вобразы галоўных герояў Сцёпкі Макавейчыка, Марысі Суравец, Косціка Баранавіцкага, далучаных да самых трывог часу, адлюстраваў імкненне лепшых прадстаўнікоў народа да сацыяльнага і нацыянальнага разняволення. Носьбітам аўтарскай ідэі ў рамане стаў абагульнены вобраз камуніста Дзядзькі.

У 1936 годзе першая кніга рамана была завершана. Ён рыхтаваўся да выдання ў наступным годзе. С. Баранавых перадрукаваў рукапіс на машынцы — два экземпляры прапанаваў у выдавецтва, а два даў пачытаць знаёмым. Адзін з гэтых экземпляраў узяла сястра жонкі пісьменніка Ганна Іванаўна Рудакоўская. Раман пабачыў свет толькі ў 1957 годзе. І дзякуючы менавіта таму экземпляру, які і трапіў да Г. Рудакоўскай.

А як складваўся лёс С. Баранавых пасля таго, як першая кніга рамана была завершана, відаць з яго лістоў жонцы Надзеі Іванаўне Бударкевіч, упершыню апублікаваных дзякуючы Лідзіі Савік у чацвёртым нумары часопіса "Нёман" за 1988 год пад назвай "Я сумленны грамадзянін...". Узялі яго ў ноч з 3 на 4 лістапада 1936 года. Абвінавачвае заключэнне атрымаў амаль праз год, 2 кастрычніка 1937-га. Спецыяльная калегія Вярхоўнага суда БССР асудзіла 4 кастрычніка 1937 года Баранава-Баранавых Сымона Якаўлевіча па артыкулах 72, 76, 145 тэрмінам на 10 гадоў выпраўленча-працоўных лагераў і пяць гадоў пазбаўлення ўсіх праў.

Сам крык душы ў лістах С. Баранавых да жонкі: "Я сумленны грамадзянін нашай савецкай краіны". У другім пісьме: "...я перагрыз бы горла ворагу савецкай улады, а тут мяне робяць ворагам народа". Як і многія з рэпрэсіраваных, на жаль, шчыра верыў Сталіну: "Калі б я меў шчасце вярнуцца да сваёй літаратурнай працы — я мог бы напісаць цяпер эпапею нашай магутна-сацыялістычнай краіны. За гэтыя тры гады я бачыў жыццё (пісаўся ліст у 1939 годзе. — **А. В.**) у яго паўнаце. Я бачыў ворагаў народа і бачыў бальшавікоў тут, на Далёкай Поўначы. Тут, дзе таксама савецкая ўлада, як і ў мяне на радзіме. Усюды савецкая ўлада... І ніяк вораг не пераможа, таму што яна адзіная, таму што ёю кіруе народ, воля якога ў вялікім Сталіне".

Сымон Баранавых быў пісьменнікам па прызванні, таму і жыў новымі творчымі планамі. У адным з першых лістоў, якія жонка атрымала ад яго яшчэ 7 снежня 1937 года, просячы, каб прыслала яму самае неабходнае — "цукру кіло, сала, махоркі, пабольш паперы для курэння, цыбулі, крыху сухароў", дадае "і агульны чысты сшытак". Па магчымасці, сачыў за творчым жыццём на Беларусі: "Я прачытаў ва ўрыўку "Звязды", што ідзе п'еса Крапівы "Партызаны". Вітаю. Савецкая драматургія расце. Крапіва літаратурна вырас, крочыць наперад. Гэта вельмі добра. Радуешся". І адразу ж рэзкі пераход: "... а чаму ж я не магу прымаць удзелу ў росце савецкай літаратуры, драматургіі? Так. Крыўдна". І як заклінанне: "Беражы, Надзятка, мой раман. Я калі-небудзь яго дапішу. У мяне вельмі многа планаў".

Надзея Іванаўна (яна памерла ў 1957 годзе) захавала не толькі рукапіс першай кнігі рамана "Калі ўзыходзіла сонца", лісты мужа, а і пратаколы арышту, допыту, некаторыя іншыя матэрыялы. У вайну закапала іх у садзе. Раман жа С. Баранавых так і не змог дапісаць.

Няма С. Баранавых — няма (страшнае супадзенне) і яго роднай вёскі. Рудакова было спалена нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў студзені 1943 года разам з жыхарамі. А творы С. Баранавых засталіся. І без іх будзе няпоўным наша ўяўленне аб нацыянальнай літаратуры канца 20-30-ых гадоў.

**Алесь ВІШНЕЎСКІ**

ПРОЗА

# Блаславёны "ЛіМам"

## Івану СТАДОЛЬНІКУ — 60

*Радзіма Івана Канстанцінавіча — вёска з прыгожай беларускай назвай Янкі, што знаходзіцца ў Докшыцкім раёне. У ёй І. Стадольнік нарадзіўся 30 верасня 1941 года. Пасля заканчэння Докшыцкай сярэдняй школы працаваў у мясцовым калгасе, на цаліне. Адкуль вярнуўся неўзабаве, каб зноў звязаць свой лёс з вёскай. Некаторы час быў бібліятэкарам Бярозаўскай бібліятэкі Докшыцкага раёна. Скончыў зубаўрачэбнае аддзяленне Полацкага медыцынскага вучылішча, выконваў абавязкі галоўнага ўрача, быў зубным урачом Мосарскай сельскай бальніцы Глыбоцкага раёна, завочна вучыўся на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Атрымаўшы вышэйшую адукацыю стаў загадчыкам аддзела сельскай гаспадаркі полацкай аб'яднанай газеты "Сцяг камунізму", з якой лёс звязаў яшчэ ў 1967 годзе. З 1980 жыве ў Мінску: быў рэдактарам аддзела літаратуры, адказным сакратаром часопіса "Вожык", адказным сакратаром часопіса "Тэатральная Беларусь" (пазнейшая назва "Тэатральная творчасць"). Па стане здароўя знаходзіцца на пенсіі.*

*У 1960 годзе дэбютаваў як паэт на старонках докшыцкай раённай газеты. А першае апавяданне ў рэспубліканскім друку з'явілася ў 1971 годзе ў "ЛіМе". У І. Стадольніка выйшлі кнігі "Хачу табе шчасця" (1979), "Як тут не смяяцца" (1985), "Лістапад на пачатку лета" (1987).*

*З 60-годдзем, шаноўны Іван Канстанцінавіч! Яшчэ доўгіх год жыцця Вам, новых твораў і кніг!*

# На крылах уласнай песні

**Пра Івана Стадольніка я мог бы расказваць гадзінамі — столькі нас звязвае ўзаемных успамінаў. У далёкім 1967-м, калі я працаваў карэктарам у полацкай газеце, прыйшоў ён да нас у рэдакцыю адказным сакратаром. Ён ужо быў тады пачынаючым літаратарам: друкаваўся ў абласным і рэспубліканскім друку, я ж толькі рабіў першыя крокі ў літаратуры. Але паколькі мы разам працавалі ў рэдакцыі, нам і выпала сумесна кіраваць літаб'яднаннем "Наддзвінне", дакладней, кіраваў усё ж Іван Стадольнік, я ж дапамагаў яму сабраць удзельнікаў аб'яднання, арганізаваць сустрэчу ў школе або ў бібліятэцы...**

**На маіх вачах Іван пачаў пісаць прозу. На вачах — літаральна, бо сваё апавяданне "Бывай, Буланчык!" ён пісаў у рэдакцыі, і тут жа зачытваў гатовыя абзацы. Аднойчы ў дзве гадзіны ночы мяне дома разбудзіў тэлефонны званок: гэта Івану не цярпелася прачытаць новае апавяданне.**

**Той наш сумесны полацкі перыяд быў асвечаны сяброўствам з Германам Кірылавым, які яшчэ ўтойваў ад многіх сваю прозу, з Канстанцінам Жарнасекам — выдатным фотамайстрам, карэнным палачанінам і цудоўным чалавекам.**

**Полацк, я лічу, стаў для І. Стадольніка, хлопчыка з докшыцкай вёскі Янкі, першай літаратурнай сталіцай, дзе выспеў яго талент празаіка, які высока быў ацэнены Я. Брылём, Г. Бураўкіным, І. Пташнікавым, М. Гілём...**

**Амаль у адзін год мы з Іванам і пакінулі полацкую газету — я паехаў на працу ў Наваполацк, на заводскае радыё, а яго запрасілі ў сталіцу, у часопіс "Вожык". Хто тады думаў, што амаль праз дваццаць гадоў мы сустрэнемся зноў у адной рэдакцыі, на гэты раз вожыкаўскай?**

**Нялёгкі лёс выпаў на долю Стадольніка з самага дзяцінства. Застаўся без бацькі, які загінуў на вайне, з маці і маленькай сястрой. Пасля школы — цаліна, полацкае медвучылішча, праца фельчарам у Глыбоцкім раёне, журналістыка.**

**Не песціў лёс і потым, і аж па сённяшні дзень сустракаецца Іван з цяжкімі выпрабаваннямі. Але ўсе прывыклі бачыць яго вясёлым, здольным на жарт, здольным паіранізаваць над самім сабой. Магчыма, адкрыты і шчыры характар, жаданне паболей пабыць у сяброўскай кампаніі адабралі і нейкі час ад пісьменніцкай працы, але лепшае, што напісаў І. Стадольнік, па праву адносіцца да здабыткаў нашай літаратуры. Яго апавяданні і аповесці вызначаюцца глыбокім лірызмам, шчырасцю, рамантычнай узнёсласцю. Яго вершы — высокім пафасам пачуцця. Яго гумарэскі — уменнем заўважыць трапную дэталь.**

**Івану Канстанцінавічу — 60. Не верыцца, бо для мяне ён ранейшы Іван — вясёлы, спагадлівы, гарэзлівы. Здароўя і поспехаў табе!**

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

Іван СТАДОЛЬНІК

# СТРАЛЯЙ У СЭРЦА, ПЕЦЯ...

АПАВЯДАННЕ



Пётра Вістуноў старэйшы за мяне амаль на трыццаць гадоў. Але лічыліся мы ледзь не сябрамі. Калі можна так сказаць, службовымі. Пётра — пенсіянер, ды пакуль што працуе старшынёй прафсаюзнага камітэта саўгаса "Белае" ў нашым раёне. А я — журналіст Полацкай раёнкі, асвятляю, як у нас кажуць, пытанні сельскай гаспадаркі.

Па службе часта наведваюся ў гэты саўгас. Можа, і часцей, чым трэба. Бо вабіць мяне сюды Пётра. Ён усё і ўсіх ведае. Кожнага чалавека, кожную вытворчую лічбу, а ў дадатак — процьму розных гісторый.

Апошнім жа часам ён стаў даволі ахвотна расказваць пра сябе. Зрэшты, не так пра сябе, як пра тое, што зведаў і перанёс у сваім паўтаямнічым жыцці.

Пасля таго, як збяру я свой "газетны матэрыял", Пётра заводзіць свой старэнькі "Каўровец", кладзе на багажнік авоську, у якой пляшка, а то і дзве гарэлкі, скрыль сала, некалькі цыбулін ці агуркоў, хлеб, і едзем мы на бераг возера Белае. Агонь не раскладаем. Чамусьці Пётра не любіць агню. Садзімся на траву і пачынаем сілкавацца. Вось тут Пётра і бярэцца расказваць, успамінаць розныя выпадкі.

У кожны мой прыезд, як бы ён ці я ні былі занятыя, мы хоць гадзінку пасядзім на беразе возера. Гэтым разам Пётра распавёў аб тым, як быў шафёрам "чорнага варанка" і вазіў на расстрэл вязняў.

Аперацыя называлася "вяселле". У кожнае "вяселле" пасля паўночы Пётра падганяў да турмы "варанок". Энкавэдзісты заходзілі ў турму і пыталіся ў вязняў, хто падаваў апеляцыю на памілаванне. Вядома, уздымаўся лес рук. І тады вязняў выклікалі па спісе, і казалі:

— Едзем на перасуд. Выходзьце з рэчамі.

Якая радасць ззяла на тварах тых, каму выпала "шчасце" быць "перасуджанымі"! Сёй-той нават крычаў:

— Няхай жыве вялікі Сталін! Слава таварышу Сталіну!

А потым нямелі, вар'яцелі, апынуўшыся перад свежавыкапанай ямай, асветленай фарамі машыны.

Аднойчы Пётра прывёз двух сваіх аднакласнікаў. Яны кінуліся яму ў ногі з нечалавечым лямантам:

— Пецечка, ратуй!!!

А як ён мог іх выратаваць?..

Неўзабаве пасля вызвалення Полацка ён вазіў на расстрэл нямецкага каменданта. Перад расстрэлам капітан-энкавэдзіст праз перакладчыка спытаў: можа, камендант хоча што-небудзь напісаць сваім родным? Але той адказаў, што яго краіна ваюе і пісаць няма сэнсу, адно папрасіў капітана, каб страляў не ў патыліцу, а ў лоб, што той і зрабіў...

А ў вайну Пётра ваяваў, займеў шмат узнагарод — ці не чатырнаццаць ордэнаў і медалёў. Але ні на адной урачыстасці ён не чапляў іх на святочны пінжак, нават ордэнскіх калодак не насіў. Ваяваў ён, як аднойчы прызнаўся, у нейкім асаблівым партызанскім атрадзе. Але калі я прасіў расказаць пра гэта, адмоўчваўся.

Неяк сядзім мы на беразе возера. Бяром чарку, закусваем. Любуемся прыгожым наваколлем. Я кажу, што і ў мяне радзіма таксама прыгожая, хоць азёраў блізка й няма. Пётра, здаецца, не чуе мяне, глядзіць некуды ў бясконцасць, думае нешта сваё. Ды раптам кажа:

— А вунь там ляжыць маё каханне...

І паказвае рукой на другі бераг возера, на высокія сосны.

— Як — ляжыць? — надаўменна і ўважліва гляджу я Пётру ў вочы з думкай: ці не перабраў стары? Але ў яго, як кажуць, ані ў воку.

Бачачы маё непаразуменне, Пётра ўздыхнуў і працягваў:

— Ладна, раскажу. Бо памру, і ніхто так і не даведаецца. Цяпер, мяркую, можна.

І ён расказаў такую вось гісторыю...

Іхні энкавэдысцкі невялічкі партызанскі атрад быў звышсакрэтны. Займаўся толькі дыверсіямі. Пад пагрозай смерці было забаронена ўступаць у любыя сутычкі з ворагам. За кожнага байца камандзір адказваў галавой і пра самае нязначнае ЧП павінен быў паведамляць адразу і непасрэдна Маскве.

Паміж Полацкам і Ушачамі ў дрымучым бары была абсталявана штаб-зямлянка, так адмыслова замаскіраваная і засакрэчаная, што хадзілі па ёй — не здагадаешся, што пад табой. У зямлянцы ўвесь час знаходзілася радыстка Галя, маладая настаўніца, родам з-пад Дрысы, ці, па-цяперашняму, Верхнядзвінска. Байцы выходзілі на заданне толькі ноччу. У зямлянцы заставалася Галя, адзін-два дзяжурныя байцы і некалькі чалавек у сакрэтным дазоры. Днём усе былі ў зямлянцы. Цьмяна гарэла лямпачка ад акумулятарных батарэй, бясшумна працаваў вентылятар, прыганяючы паветра праз дупло вялікай старой асіны, якая ўзвышалася над зямлянкай.

У той дзень, як і заўсёды, займаліся хто чым. Хто спаў, хто нешта некаму расказваў, нехта чысціў зброю. Чысціла і Галя. І раптам грымнуў стрэл, уямезямлянцы проста аглушальны. Наступіла мёртвая цішыня. Ніхто нічога не зразумеў. І толькі праз нейкі момант пачаўся вэрхал. Хто ўскочыў з месца, хто хапіўся за зброю, хто кінуўся да выхаду. А яшчэ праз нейкую хвіліну ўсе, вытарашчыўшы вочы, глядзелі на Галю, твар якой быў белы, як палатно. Са ствала яе пісталета яшчэ кудзелілася рэдзенькая пасмачка дыму, а побач, схапіўшыся рукой за грудзі, з-пад якой цурчэла кроў, адкінуўшыся спіной да сцяны сядзеў камандзір аддзялення Петрыкаў.

Усталявалася нейкая густая, даўкая цішыня. Здавалася, яна вось-вось зацісне ўсіх, як абцугамі, раздушыць, раструшчыць. Яе абарваў голас камандзіра Верашчадзіна:

— Што?!

Ліхаманкава расшпільваючы кабуру, ён ужо з надрывам закрычаў:

— Што гэта?! Што?

Галя сядзела бела-белая, не міргнуўшы, не плюснуўшы вейкамі, як мёртвая, як акамянелая. Усе бачылі, што Петрыкаў ужо сканаў, сядзеў абмяклы, звесіўшы сваю русявую галаву на грудзі.

Выхапіўшы пісталет, Верашчадзін быў нацэліў яго на Галю, але, секунду счакаўшы, зноў схаваў у кабуру і ўжо ціхім, прыдушаным голасам сказаў:

— Што будзем рабіць?

Пасля непрацяглага маўчання азваўся камісар Іваноў:

— Перадаваць у Маскву.

Галя ад гэтых слоў здрыганулася, вочы яе ажылі, на твары з'явіліся прыкметы чырвані. Бліжэй падсунулася да перадатчыка. Іваноў прадыктаваў шыфраграму. Галя перадала. Праз нейкую хвіліну паступіў адказ: "Расстраляць!"

Вочы радысткі неяк ненатуральна ажывіліся, як быццам яна ўзрадавалася гэтаму загаду, але праз нейкі момант яны зноў патухлі.

— У каго будуць якія думкі? — абвёў позіркам байцоў Верашчадзін і дабавіў. — Можа, звязацца зноў?..

— Что? А ты уверен, что это не враг? — вышчарыўся асабіст Галадулін.

Што Галадулін асабіст-смершнік, адкрыта ніхто не казаў, але па тым, што ён часта камандаваў і камандзірам, і камісарам, і што яны яўна баяліся яго, было гэта зразумела само па сабе. Забраўшы Галін пісталет, Галадулін сказаў:

— Я считаю уместным приказать охранять радистку рядовому Вистунову. Они земляки, кажется. Поладят. А всем, кроме дозора, — на задание. Я думаю, командир так и прикажет?

Верашчадзін так і загадаў. Пётра хацеў быў запярэчыць, абурыцца, але ў час спахапіўся. Ён адчуў, што Галадулін ведае пра яго нераўнадушша да Галі, дык адразу абвінаваціць у змове, ці яшчэ Бог ведае ў чым. Хаця, як лічыў сам Пётра, пра яго пачуцці ці здагадвалася нават сама Галя. Хаця многія заўважалі, як ён цяжка ўздыхаў, убачыўшы яе, як стараўся часцей трапляць ёй на вочы, і яшчэ па многім чым. Словам, ледзь не ўсе ведалі пра яго каханне.

І вось яны ўдваіх. Цьмяна гарыць лямпачка. Галя ў адным канцы зямлянкі, ён — у другім. Яна — як каменная, і ён — як каменны. Сядзяць доўга. Ён баіцца зірнуць на гадзіннік, каб не напомніць Галі пра яе апошнія гадзіны, а мо і хвіліны. Але прадчувае: хутка пачне світаць і вось-вось вернуцца хлопцы. І тады...

І раптам чуе Галін голас. Нейкі далёкі-далёкі і як бы зусім і не ейны:

— Пеця?..

Ён маўчыць, прыслухоўваецца: гэта яна сказала ці не яна? І зноў чуе:

— Пеця, пацалуй мяне...

Ён маўчыць...

І зноў:

— Пеця, пацалуй мяне...

І ён падышоў да яе, доўга глядзеў у яе як ашклянелыя вочы. І потым ужо вуснамі датыкнуўся да ейных. Яны былі халодныя, як у нябожчыка. Толькі ў вачах з'явілася нейкая цяплынька, яны нібыта ажылі, і з іх спакваля, як выціснутыя нейкай вялікай сілай, паволі-паволі пакаціліся слязінка за слязінкай. Бліскучыя, халодныя і цяжкія, як іртуць.

І ў гэты момант адчыніўся люк і пачуўся голас камандзіра:

— Вістуноў, выводзь!..

Першай паднялася Галя і, глыбока-глыбока працінаючы Пётру сваім невідучым позіркам, прашаптала:

— Страляй у сэрца, Пеця...

Хаця і невядома было, каму загадаюць яе расстрэльваць, але яна, відаць, прадчувала, што гэтая доля выпадзе на яго, на Пецю. Якога, мусіць, і яна кахала...

Так яно і сталася. Яна ішла да той тоўстай сасны, на якую ўказалі. Ён — за ёй. Яна ішла паволі, нага за нагу і ўвесь час ціха шаптала:

— Страляй у сэрца, Пеця...

Дайшоўшы да сасны, яна павярнулася тварам і на ўсе вочы, але без дакору, без крыўды, а як бы з нейкай вялікай і незразумелай удзячнасцю паглядзела на яго.

І ён стрэліў. Але і па сённяшні дзень не ўцяміць, чаму не ў сэрца, а ў лоб. Яна яшчэ нейкі час стаяла, быццам разгублена глядзела на яго, як бы не верачы ў тое, што адбылося, а потым асцярожна, як баючыся пакалечыцца павалілася.

...Дзіўна. Але пра ўсё гэта Пётра расказваў, як пра нешта звычайнае, нават ні разу не здрыгануўся, не сарваўся ягоны голас.

— А як пра гэта паведамілі яе родным? — нарэшце ачомаўся я.

— Напісалі: "Прапала без вестак", — глыбока ўздыхнуўшы, не перастаючы глядзець у нікуды, — сказаў Пётра.

Назад "Каўровец" нёс нас намнога хутчэй, чым сюды. І не таму, што Пётра быў нападпітку. Ён як быццам імкнуўся ад некага ўцячы. Ад самога сябе?..

## Незабыўны маэстра

Глянуўшы на каляндар, няможна абмінуць дату, памятную для айчыннай музычнай культуры: споўнілася 85 гадоў з дня нараджэння заслужанага артыста Беларусі Барыса Райскага. Не будзе перабольшваннем сказаць, што з гэтым імем звязана цэлая эпоха ў нашым музычным радыёвяшчанні, выканальніцтве, творчасці. Многія гады Б. Райскі ўзначальваў аркестр Белтэлерадыё, які з эстраднага (эстрадна-сімфанічнага) яшчэ пры ім быў пераствораны ў сімфанічны. Дзякуючы студыйнай працы маэстра з калектывам, фанатэка папаўнялася запісамі твораў розных жанраў: папулярных песень, сімфаджазавых кампазіцый, інструментальных канцэртаў, балетных сюіт, оперных старонак...

Беларускія кампазітары некалькіх пакаленняў з удзячнасцю ўспаміналі, дый успамінаюць, Барыса Іпалітавіча Райскага як шчырага прапагандыста іх творчасці, як дасведчанага і добразычлівага калегу, дарадцу, сябра. Што й казаць: публічнае выкананне сімфанічных твораў для беларускіх аўтараў заўсёды было праблемай. Супрацоўніцтва з бездакорным, зацікаўленым, самааддадзеным Б. Райскім заўсёды завяршалася прэм'ерай — хай сабе ў студыі ці ў эфіры. (Праўда, маэстра ўдавалася ладзіць са сваім калектывам, салістамі і публічныя канцэрты).

У яго быў няпросты лёс. (Між іншым, такая дэталь біяграфіі: хлапчуком яму даваліся слухаць у Харбіне знанага беларускага спевака М. Забэйду-Суміцкага, і ўражанне засталося на ўсё жыццё). Шчаслівае мастацкая склалася прафесійная кар'ера... Зрэшты, ён быў шчаслівым чалавекам, аптымістам, працаўніком, захопленым творчасцю насуперак гадам і інфарктам. Дзякуючы запісам, зробленым пад кіраўніцтвам Б. Райскага, жывуць, гучаць у эфіры і сёння, многія старонкі беларускай музыкі.

С. Б.

## "Беларускі гістарычны часопіс", N 3

На пачатку трэцяга нумара штоквартальніка "Беларускі гістарычны часопіс" — заканчэнне артыкула М. Смірнова "Дзейнасць савецкай разведкі і контрразведкі супраць нямецкіх спецслужбаў на тэрыторыі Беларусі ў 1941—1944 гг." На шырокага чытача разлічаны такія публікацыі, як "Вялікае княства Літоўскае ў 1812 годзе" В. Шведа, "Беларуска-польскія адносіны ў 1996—1999 гг." М. Часноўскага, "Органы ўлады і кіравання ў Вялікім княстве Літоўскім (XIV—XVI стст.) В. Матараса, "Сацыяльна-эканамічная палітыка ўрада Канфедэратыўных Штатаў Амерыкі ў час грамадзянскай вайны 1861—1865 гг." І. Ксянзова і С. Ксянзова, "Каталіцызм у Лацінскай Амерыцы (60—90-х гг. ХХ ст.)" Д. Ларыёнава, "Усходняя палітыка ВКЛ у першай трэці XVI стагоддзя" Б. Сідарэнкі, "Настаўніцкія семінарыі і іх роля ў адукацыі на Беларусі" Н. Матусевіч, "Старонкі гісторыі навуковай інтэлігенцыі ў даваенны перыяд" Г. Карэенкі, "Матэрыяльная культура беларускага народа ў часы Вялікага княства Літоўскага" А. Трусава. У раздзеле "Краязнаўства" змешчаны артыкулы В. Хурсіка "Землі Радзівілаў на Асіповічыне" і А. Карлюкевіча "Краязнаўства на старонках мясцовага друку (Асіповіцкі раён)". М. Сташкевіч рэцэнзуе кнігу А. Сарокіна "На ростанях айчыннай гісторыі. Беларуская вёска ад Дэкрэта да Кодэкса аб зямлі (1917—1980-я гады)" — "Беларуская вёска: ад Дэкрэта да Кодэкса аб зямлі". М. Касцюк і А. Літвін расказваюць пра Я. Паўлава, якому споўнілася б 60 гадоў. Матэрыял прапануецца ў раздзеле "Людзі гістарычнай навукі".

## "Кантакты і дыялогі", N 7—8

У раздзеле "Беларускае замежжа" змешчаны матэрыялы Я. Чыквіна "Праблема адносін да Бога. Янка Купала, Алесь Гарун, Наталля Арсеннева, Максім Танк", М. Міцкевіч "Рэлігійны элемент у творчасці Якуба Коласа паводле эміграцыйных выданняў і перадач Радыё Ватыкана", Л. Мілаш "Францыск Скарына і Вільня". Артыкул С. Селяха "Да біяграфіі спевака Вячаслава Селяха" прапануецца ў раздзеле "Беларусы ў свеце". Публікацыі падборкі "Беларусы і ўраджэнцы Беларусі ў свеце: матэрыялы для біяграфічных даведнікаў" знаёмяць з Антонам Антановічам, Валянцінай Жукоўскай-Пашкевіч, Здзіславам Куксэвічам, Генадзем Лехам, Альгердам Наркевічам, Мікалаем Шараметам, Міхасём Шаховічам, Міхаілам Шкялёнкам, Антонам Шукелойцем. Прадстаўлены раздзелы "Рэцэнзуем кнігі", "Надрукавана пра кантакты ў Беларусі і ў свеце", "Хроніка беларусазнаўчага жыцця".

***У творчым лёсе Міколы Тарасікава — чалавека актыўнай жыццёвай пазіцыі — адбіліся асноўныя калізіі беларускага мастацтва ў перад- і пасляваенны перыяды айчыннай гісторыі. Дзейнасць жывапісца, графіка, педагога, даследчыка народнай творчасці не стасавалася з імкненнем служыць высокім гуманістычным ідэалам нацыянальнага мастацтва і разам з тым заставацца верным існуючай сацыяльна-ідэалагічнай сістэме. Ён жыў у час, калі праз ломку творчай індывідуальнасці, фарміраваўся асобны тып творцы — "савецкі мастак", стваралася індустрыя сацыялістычнага мастацтва. Графіка М.Тарасікава, як і ўсё мастацтва сацыялістычнага рэалізму, гэта — наша гісторыя, наша агульная спадчына, якую мы павінны ведаць і разумець.***

# "Мы — падмурак і руда цудоўнага далёка сярод камунізму"

### "Віцебск у тыя гады быў як маленькі Парыж..."

У станаўленні мастацкай пазіцыі М.Тарасікава вызначальным быў "віцебскі перыяд" — час вучобы ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме (1928 — 1930). Ён прыйшоў туды адразу на трэці курс пасля таго, як пакінуў Акадэмію мастацтваў, не скончыўшы першага курса, з-за матэрыяльнай нястачы. Пачатковыя крокі Міколы ў творчасці абнадзейвалі. Удзел у 2-й і 3-й Усебеларускіх мастацкіх выставах (1927 і 1929) прынёс поспех. Ён быў заўважаны. Чатыры работы маладога мастака набыў Дзяржаўны мастацкі музей. У гэты ж час Гомельскі гісторыка-мастацкі музей прэміраваў яго за работы, што экспанаваліся на выстаўцы карцін на тэму Стрэкапытаўскага мяцяжу.

"З выкладчыкамі ў Мікалая былі складаныя адносіны і даволі часта ўзнікалі канфліктныя сітуацыі з-за таго, як ён меркаваў, што яны не могуць нічога яму даць", — успамінаў выкладчык жывапісу В. Руцай. З апошнім у іх завязаліся сяброўскія адносіны. В. Руцай быў родам з Міншчыны, і пэўны час пасля заканчэння ВХУТЭМАСа (1929), выкладаў у Віцебскім мастацкім тэхнікуме. М. Тарасікава была даспадобы яго летуценная, палкая натура, мары аб "Школе вялікага адраджэння на Беларусі", аб "падборы народных талентаў і размаху дзейнасці падобна школе Перасоўнікаў, альбо школе барбізонцаў — мастакоў Францыі". Пазней сам мастак пераказваў, што мару "расцінулі нашы "валкадавы" натуралізму, дапамаглі і ахраўцы, душачы жывы рэалізм..."

Аб прываблівых мастацкіх якасцях твораў М. Тарасікава юнацкіх часоў, выкананых у свабоднай эцюднай манеры, сёння мы маем магчымасць меркаваць па эцюдах віцебскіх пейзажаў ("Ля ракі", "Зіма", "Талкучы завулак" — 1930), што захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі. Юнак цягнуўся да адкрытага, моцнага вобразнай выразнасцю мастацтва таксама, як і да неардынарных, таленавітых людзей. Блізкім па духу яму быў у гэтыя гады не толькі В. Руцай, але і "бунтар" Леў Лейтман, "вытанчаны жывапісец", "француз" Леў Зевін, але асабліва Арон Ржэзнікаў.

Хутка жыццёвыя шляхі развялі мастакоў. А. Ржэзнікаў пераехаў у Маскву, там жа застаўся В. Руцай, пасля службы ў РККА М. Тарасікаў па размеркаванні год працаваў у Лепельскім педагагічным тэхнікуме, потым паступіў вучыцца на другі курс Адэскага мастацкага інстытута і пасля яго заканчэння зноў вярнуўся на Беларусь. Да пачатку вайны, падтрымліваючы сяброўства з А. Ржэзнікавым і В. Руцаем, М. Тарасікаў кожны раз, калі бываў у Маскве, абавязкова наведваў сваіх былых настаўнікаў, паказваў новыя працы, везучы дадому ўражанні працяглых гутарак.

### "Французская ласкавая форма ўпісваецца ў сацыялістычны змест"

У гэтых словах М. Тарасікава вызначаны не толькі асабістыя, але і агульныя для беларускай творчай моладзі 1920-х — 1930-х гадоў патаемныя думкі да шляхоў аднаўлення традыцыйных форм выяўленчага мастацтва. Эстэтычныя арыенціры М. Тарасікава, якія вызначыліся ўжо на пачатку 1930-х годоў ("Я — глыбокі прыхільнік і своеасаблівы інтэрпрэтатар французаў, дэкаратыўнага пачатку. Да мозгу касцей станкавіст "), аказаліся даволі ўстойлівымі. Мастака прывабліваі і захаплялі новыя ідэі і формы ў мастацтве. Таму невыпадкова ў час вялікіх сацыяльных пераўтварэнняў яму былі найбольш блізкімі рэвалюцыйныя эстэтычныя ідэі П. Сезана.

Дакладна і вострa мастацкія погляды М. Тарасікава гучаць у выказваннях аб творчасці сваіх сучаснікаў: А. Бразера, У. Кудрэвіча, Л. Лейтмана, Ю. Пэна, С. Юдовіна і інш. Сціплы і стрыманы ў жыцці М. Тарасікаў праяўляў баявітасць і напорыстасць у пытаннях мастацтва, з палкасцю даводзячы, што "халодная дакладнасць у перадачы выявы — не мастацтва. Праніклівае ўвасабленне задумы, тады дае задавальненне, калі яно выражае думку мастака, — вось сапраўднае мастацтва". Ён захапляецца "гарамі натхнёнай працы" А. Бразера, — "хаосам творчых пошукаў, без усялякай наўмыснай тэндэнцыйнасці ці ўгодніцтва модзе, пошлым, танным густам, ён ствараў сябе, шукаючы і аваладваючы тэхнікай сусветнага майстэрства малюнка".

Так і ў сваіх асабістых працах М. Тарасікаў атрымліваў асалоду ў гульні колеравых адценняў, дынамікі мазкоў, кантрастах танальных плямаў. Сюжэты графічных лістоў з серыі "Адэса" (сярэдзіна 1930-х гадоў) часта былі звязаны з гістарычнымі, знакамітымі мясцінамі, але галоўным для мастака ўсё ж з'яўлялася перадача эмацыянальнай напоўненасці пейзажа, адлюстраванне эфектаў хутказменных станаў прыроды ("Гара Тараса Шаўчэнкі ў Каневе", "Каменяломні"). Сонечным каларытам і імпрэсіяністычным бачаннем экзатычных матываў прыроды вызначаюцца "Гурзуфскія эцюды", таксама як і натурныя акварэлі з серыі "Пейзажы Беларусі" і "Купалаўскія мясціны", створаныя мастаком у наваколлях Мінска (канец 1940-х — 1950-я гады). Найбольшай раскаванасці ў каляровай графіцы М. Тарасікаў дасягае ў канцы 1950-х — пачатку 1960-х гадоў. Паказальныя ў гэтым кшталце нацюрморты з кветкамі, садавінай, бытавымі рэчамі і мастацкімі аксесуарамі ("Букет белага бэзу", "Нацюрморт з пэндзлямі і макам"). У іх няма намеру выявіць аб'ёмнасць ці матэрыяльнасць рэчаўнага свету. Эмацыянальны змест вобраза ўтвараецца перш за ўсе сістэмай колераў і эфектамі прыёмаў вадзянога жывапісу. Жвавы характар пісьма ў эцюдах адпавядае выразным магчымасцям гэтай тэхнікі, а недэфіцытны матэрыял (простая белая ці каляровая папера, іншы раз нізкага гатунку, акварэль, плакатная гуаш або тэмпера) дае аўтару пэўнае разнявольненне ў пісьме.

Часам атаясамляючы "натуралізм" з "акадэмізмам", з заўзятай баявітасцю "з рысай нейкага зверства, злосці і лютай нянавісцю" (па выразе самога М. Тарасікава), ён адносіўся да "лагера акадэмічнай, натуралістычнай школы" і мастакоў, "якіх было ў Беларусі, як клапоў, тыпу керзіных, волкавых, гусевых, нябожчыкаў Пэна, Кругера". З запалам, характэрным для юнацкага максімалізму, выказваўся супраць мастацкай "непатрабавальнасці да сябе", "звальвання на лёгкі, нізкі шлях, на бытавізм", прызнаючы, аднак жа з расчараваннем, што "фронт беларускім натуралістаў магутны, з моцнай бранёй, як нідзе ў рэспубліках". Праз гады яго прынцыповыя мастацкія пазіцыі заставаліся непахіснымі, але ацэнкі творчай дзейнасці сваіх калег станавіліся больш асэнсаванымі і разважлівымі. У сталым веку М. Тарасікаў выказваўся аб малюнках В. Волкава як аб "першакласных" і высока ацэньваў школу Ю. Пэна, "якая магла смела канкураваць з метадычна моцнай дзяржаўнай мастацкай школай у Віцебску і нават з іншымі навучальнымі ўстановамі СССР."

### "Мастацтва графікі заснавана на першаснове — моцным рэалістычным малюнку"

Любоў і разуменне малюнка М. Тарасікаў набыў яшчэ ў юнацтве, калі наведваў студыю імя М. Урубеля ў Гомелі, якой кіраваў С. Каўроўскі. Па ўспамінах мастака гэта была сапраўдная мастацкая школа, дзе панавала атмасфера творчага спаборніцтва. Эксперыментавалі вугалем, крэйдай па каляровай паперы. Тут у размовах і спрэчках ён набыў разуменне прафесійнага майстэрства мастака і глыбокую павагу да "тытанаў малюнка": Рэмбранта, Сезана, Дам'е, Радэна.

Жывапісец па адукацыі, М. Тарасікаў шмат працаваў у станковай, кніжнай і прыкладной графіцы, добра валодаў рознымі графічнымі тэхнікамі; пісаў акварэллю і гуашшу, рабіў манатыпіі, рэзаў гравюры. Што ж тычыцца малюнкаў алоўкам і тушшу, дык гэта была яго штодзённая праца. Накіды, натурныя замалёўкі, эскізы будучых кампазіцый фіксавалі першыя, самыя непасрэдныя ўражанні. Яны не былі падуладны кан'юнктуры, бо не прызначаліся для паказу. У графічных творах мастак больш актыўна ішоў на эксперымент.

У той час, калі многія практыкі і тэарэтыкі мастацтва сцвярджалі, што імпрэсіянізм разбурае графіку, М. Тарасікаў лічыў, што *самае складанае ў малюнку і жывапісе* — перадача "дынамікі, экспрэсіі форм", а гэтым "дасканала валодалі імпрэсіяністы, якія ўзводзілі малюнак у абсалют".

Арыгінальная графіка М. Тарасікава амаль цалкам складаецца з так званай "падрыхтоўчай" графікі: накідаў, замалёвак, эскізаў, схематычных фіксацый кампазіцыйных ідэй да будучых твораў, і толькі некаторыя малюнкі прэтэндуюць на завершанасць і самастойнае экспанаванне. Тым не менш *цікавасць да шматлікіх графічных аркушаў* існуе, бо разам з эстэтычнымі якасцямі малюнкі прываблваюць адкрытасцю і непасрэднасцю выяўленчага летапісу, раскрываюць эвалюцыю мастацкага мыслення многіх з пакалення беларускіх мастакоў сярэдзіны XX стагоддзя. Менавіта так сёння ўспрымаюцца заводскія матывы ў агітацыйна-плакатнай манеры ("Гомель. Індустрыяльны пейзаж", 1931) і "фармалістычныя" лісты ("Скакун", "Лодкі", 1937), дакументальна-хранікальная рэпартажнасць ваеннага часу ("Кухня. Бажоўка. 29 лістапада 1944 г."), дзённікавыя накіды і альбомы з этнаграфічнымі замалёўкамі 1950-х гадоў, партрэты сучаснікаў мастака розных гадоў. Своеасаблівы цыкл твораў складаюць аўтапартрэты. Усяго іх у розных калекцыях захоўваецца некалькі дзесяткаў. Амаль на ўсіх аўтапартрэтах М. Тарасікаў выглядае энергічным, засяроджаным, адкрытым да гледача. За гады істотна не змяняўся яго вобраз. Мабыць, таму, *што галоўнай задачай* у партрэце аўтар лічыў адлюстраванне ўласцівых асобе рысаў характару.

Прываблівае і індывідуальная манера малюнка М. Тарасікава, дынамічная, лёгка рэагуючая на самыя тонкія пачуццёвыя рухі. Гэта адчуваецца ў лінагравюрах ("Залішчыкі", 1960), афортах, экслібрысах, намаляваных пяром. І ўсё ж найбольшай выразнасцю вызначаюцца натурныя малюнкі пэндзлем, выкананыя тушшу або чорнай акварэллю, ці *ў змешанай тэхніцы, дзе захоўваецца* застылая напружанасць часу ("Ля млына. Івянец", 1957; "Эцюд са снапамі", 1947). Творчую энергію надавала і работа на пленэры. "Толькі эцюды давалі яму магчымасць тэмпераментна, хутка весці свае пошукі", — гаварыў пра М. Тарасікава А. Грубэ. Разам з сябрамі-мастакамі Л. Зевіным, А. Шаўчэнкам, І. Стасевічам, А. Казлоўскім ён аб'ездзіў Беларусь удоўж і ўпоперак, распрацоўваючы актуальныя тэмы сацбудаўніцтва: *меліярацыя на Палессі, Полацкі нафтабуд і інш.*

### "Пошла і няверна падмяняць творчы метад сацыялістычнага рэалізму вульгарным фотанатуралізмам"

Актыўная мастацкая пазіцыя М. Тарасікава прыносіла яму шмат нязручнасцей, клопатаў і перажыванняў, але інакш ён жыць не ўмеў і не жадаў. Тое, што многія мастакі бачылі, аб чым маўчалі і да чаго прыстасоўваліся, ён выказваў публічна. У 1920-я гады ён змагаўся з натуралізмам і бытапісальніцтвам *старой акадэмічнай школы* (В. Волкавым, М. Керзіным, Ю. Пэнам). У канцы 1940-х эфект выбуху бомбы выклікала выступленне М. Тарасікава на II з'езде беларускіх мастакоў, дзе, па словах тагачаснага старшыні Саюза мастакоў Я. Зайцава, ён заклікаў мастакоў "вучыцца ў французскіх фармалістаў", "буржуазнага мастака Сезана". Ды і ў асабістай мастацкай практыцы ён "прытрымліваўся эцюднасці, аддаваў перавагу кампазіцыі перад зместам, шукаў нейкіх незразумелых колеравых плям,

## Віртуальная чытанка — рэальны прэстыж

**У Мінску з 1 чэрвеня па 30 верасня праходзіць першы Інтэрнэт-фестываль. 29 верасня адбудзецца цырымонія ўзнагароджання пераможцаў. Сярод намінацый сайтаў, якія былі вылучаны на атрыманне прызоў, пачэснае месца занялі "Навука і адукацыя" і "Літаратура і мастацтва".**

**Варта адзначыць, што Інтэрнэт-фестываль для Беларусі — падзея выбітная. Карысць ад падобных мерапрыемстваў пацвярджаецца нашымі суседзямі з Расіі, Украіны і краін Балтыі. Няма нікога, хто аспрэчваў бы важнасць такіх фэстаў для развіцця беларускага інфармацыйнага абсягу. Тым больш натуральна выглядае падтрымка фестывалю з боку дзяржаўных органаў. Усё адбываецца пры непасрэдным удзеле Мінгарвыканкама, Дзяржаўнага цэнтра бяспекі інфармацыі пры Савеце бяспекі Рэспублікі Беларусь, Рэспубліканскага аб'яднання "Белтэлекам". На прэс-канферэнцыі, якую даваў днямі памочнік прэзідэнта Сяргей Посахаў, была адзначана роля Інтэрнэта ўвогуле і Інтэрнэт-фестывалю ў прыватнасці для насычэння прыбытковых артыкулаў бюджэту РБ. Ну і, вядома ж, у ідэалагічным падмацаванні дзейнасці тых жа дзяржорганаў. За некалькі месяцаў сваёй дзейнасці фестываль ускалыхнуў усю інтэрнэт-грамадскасць. Найбольшую ўвагу прыцягнула створаная ў рамках фестывалю катэгорыя "Лепшы сайт года". Яна мела на ўвазе вызначэнне лаўрэатаў — адзін лепшы сайт у кожнай намінацыі. Гэтых жа намінацый было першапачаткова 10. Апроч ужо згаданых, там былі "Інфармацыйны", "Электронная камерцыя", "Тавары і паслугі", "Карпаратыўны бізнес-сайт", "Традыцыйныя СМІ", "Музыка", "Персанальная старонка" і інш. Колькасць, а галоўнае, якасць работ, якія былі заяўленыя для ўдзелу ў першым беларускім інтэрнэт-фестывалі, пераўзышло самыя аптымістычныя чаканні арганізатараў. Давялося ўводзіць дзве дадатковыя намінацыі "Сістэмы пошуку, каталогі і рэйтынгі", "Клубы па інтарэсах, захапленні". Згодна са звесткамі вядучых беларускіх інтэрнэт-каталагаў і рэйтынгаў, у беларускай частцы сеткі налічваецца да 880 "актыўных" Інтэрнэт-рэсурсаў. У першым фестывалі прымаюць удзел 311 сайтаў, што складае каля 35 працэнтаў ад іх агульнай колькасці. Тэматыка работ, якія ўдзельнічаюць у фестывалі, адлюстроўвае ўсю шматколернасць беларускага Інтэрнэта: ад сайтаў Акадэміі навук і Нацыянальнай бібліятэкі РБ да прыхільнікаў Хіп-хопа і экстрэмальных відаў спорту.**

**Вадзім ДОЎНАР**

## Чаму не чутно "Троіцы"?

**Дзіўна, хочам, каб увесь свет цаніў наш фальклор, нашу самабытнасць, а аб тых, хто гэты фальклор прадстаўляе за межамі краіны, нічога не ведаем. Альбо проста не хочам ведаць. Ну пагадзіцеся, ці шмат хто чуў пра "Этна-Трыа-Троіцу". Так, калі гурт даў незабыўны канцэрт у Палацы Рэспублікі (27 ліпеня), дык яшчэ і дабрачынны, усе сказалі: "Як гэта файна!" А між тым гурт з моманту свайго стварэння (1995 год) выступаў з канцэртамі ў Польшчы, Германіі, Галандыі, Аўстрыі, Венгрыі, Расіі, Бельгіі, Партугаліі, на Балканах. У агульнай колькасці каля 120 канцэртаў! Натуральна, былі выступленні і ў Беларусі. Але ж...**

**У 98-м "Троіца" запісала кампактдыск на студыі "PAN-Records" (Галандыя). Ён ёсць на ўсіх мінскіх FM-станцыях. Але на пытанне, чаму ў эфіры няма "Троіцы", можна пачуць амаль аднолькавы адказ: "Не наш фармат". Чаму?**

**Адной з адметных рыс "Троіцы" з'яўляецца выкарыстанне самых разнастайных музычных інструментаў: традыцыйныя беларускія чарот, дудкі, жалейкі, смык, барабаны, званы, расейскія гуслі, немецкія арганы, нязвыклыя для нас бамбукавыя ксілафоны (Інданезія), акарыны (Галандыя), гуданг (Зеландыя) і нават "дрэва дажджу", зробленае з кактуса.**

**Спалучэнне (даволі прафесійнае) старажытнай беларускай песні з сучасным рытмам і гучаннем у некаторых слухачоў выклікае адзіны водгук: "Паганяць беларускую песню!" У такім выпадку выкананне народнай песні накшталт "Каціліся чорна галка па бару, па бару..." (у той манеры, што мы прывыклі чуць) можна лічыць здзекам.**

**Дык мо ўсё з-за элементарнай непадрыхтаванасці нашага слухача. Не ведаем свайго, бо проста не жадаем гэтага...**

**Вольга АНЦІПЕНКА**

ПАЭЗІЯ

Віталь ГАРАНОВІЧ



## Вёска Парыж

*Шыбіны аканіцаў,*
*Зажураны стаўняў пагляд.*
*З далёкай французскай сталіцай*
*Зблізжае пара Каляд.*

*Рачулка, дзе водар зёлкі,*
*Не Сена. Ды у сенакос*
*Да самага Пляца Зоркі*
*Вясёлкі ляжыць пракос.*

*Дзяўчына, юнак бязвусы*
*Дагледзяць шчаслівы сон...*
*Клады парыжан-беларусаў,*
*Бы свой радавы Пантэон.*

*Версаль не роўня хаце,*
*Капліца тут свой Нотр-Дам.*
*Царква імя Божай Маці,*
*Нібы Парыжа храм.*

*Не смажаныя каштаны,*
*А з пахам бульбяным бліны.*
*Жывуць на зямлі парыжане*
*З таемных часоў даўніны.*

*Абудзіцца ранак стрыжам*
*Над стрэхамі край сяла.*
*Над беларускім Парыжам*
*Зорка Венера ўзышла.*

●

*Зноў конікаў цырульня*
*Адкрылася ў траве.*
*Шпакі праводзяць гульні*
*Прад выраем свае.*

*Туманам, як балотным*
*Самшоны мохам дзень.*
*І надвячорак кротам*
*Пульсуе на градзе.*

*Маланку зацугляўшы*
*Ад'ехалі грамы,*
*Заплача ноч, чакаўшы*
*Прысуд зямлі нямы.*

*Парэпаныя сцежкі*
*Ваколіца. Сухмень.*
*Бы лета галавешкі,*
*Ралля, дзе быў ячмень.*

## Летам

*А час, як знічка, праімчаў.*
*І чэрвень ноч скруціў у скатку,*
*І месяц стомлена маўчаў,*
*І додня прарасло зярнятка.*

*Не высыпалася пчала,*
*І багацелі птушак зыкі.*
*Ды дзераза ў барах цвіла*
*Вусы раскінуўшы, як лыка.*

*І срэбрам ранішнім лугі*
*Ад росаў і сіўцоў бялелі.*
*А з-пад вясёлкавай дугі*
*Маланкі спіцамі звінелі.*

*Зязюляў менела. Каршун*
*Вышэй да сонца падымаўся.*
*І доўга спачываць пярун*
*У хмары восені не клаўся.*

●

*Сумуе сонца днём па леце,*
*Ніжэй схіляе галаву.*
*І зоркі, месяцавы дзеці,*
*Зноў скачуць весела ў траву.*

*Прытупне гром ўгары абцасам.*
*Міргне маланка перуну.*
*Разгладзіць хмара, нібы прасам,*
*Вясёлкі цёплую спіну.*

*Па жніўню справіўшы памінкі,*
*Запрэгшы раніцы вазок,*
*Махае верасень галінкай*
*На "лета бабіна" знарок.*

ВЫСТАВЫ

# Як жыць, дык жыць для Беларусі...

Пад такой назвай у аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі НАН Беларусі працуе выстава, прысвечаная 90-годдзю з дня нараджэння самабытнай паэткі, выдатнай беларускі Ларысы Геніюш, творчасць якой адыграла значную ролю ў развіцці нашага грамадства, нацыянальнай культуры, духоўнага патэнцыялу Бацькаўшчыны. Асновай выставы паслужылі рукапісныя матэрыялы з асабістага архіва Ларысы Антонаўны, фотаздымкі, дакументы. Апошнім часам у перыёдыцы выказваюцца меркаванні, што рукапісная спадчына паэткі пасля яе смерці была знішчана. Гэтыя сцвярджэнні, на нашу думку, не маюць падставы. Рукапісны архіў Ларысы Антонаўны адразу пасля смерці паэткі набыла Цэнтральная навуковая бібліятэка ад яе сына, даволі вядомага на Беласточчыне літаратара Юркі Геніюша, які прыязджаў на пахаванне маці. Пры набыцці архіва ў 1983 годзе ў Зэльве, акрамя загадчыцы аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ Л. Збралевіч, прысутнічалі таксама У. Гніламёдаў, які ў той жа час быў намеснікам дырэктара Інстытута літаратуры АН, і А. Мальдзіс, тады кіраўнік сектара ў тым жа інстытуце.

У аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ архіў паступіў вельмі разбэрсаным, неапрацаваным. Шмат сіл і часу супрацоўнікі аддзела патрацілі на яго вывучэнне і ўпарадкаванне. І гэта дало багаты плён — на аснове творчых матэрыялаў рукапіснага архіва Ларысы Антонаўны ў 1997 годзе М. Раманоўскі выдаў кнігу "Выбраныя вершы", М. Скобла рыхтуе да выдання, зноў на матэрыялах архіва, выбраныя творы Л. Геніюш для "Беларускага кнігазбору", з'явіўся шэраг цікавых публікацый на старонках перыядычнага друку...

На долю Л. Геніюш выпаў складаны жыццёвы шлях. Надзяліўшы яе вялікім талентам, бязмежнай любоўю да сваёй Радзімы, лёс наканаваў ёй прайсці праз цяжкія выпрабаванні і пакуты і да канца жыцця застацца вернай сваім ідэалам.

Пісаць вершы Л. Геніюш пачала ў 1935 годзе. У 1937-ым разам з маленькім сынам пераехала на сталае жыццё да мужа ў Прагу, дзе актыўна ўключылася ў жыццё беларускай эміграцыі. Друкавацца пачала ў 1939 годзе, пераважна ў эміграцкіх выданнях. У 1942 годзе ў Празе выйшаў першы зборнік яе вершаў "Ад родных ніў", які экспануецца на нашай выставе. Падчас немецкай акупацыі Чэхаславакіі Ларыса Антонаўна знаходзілася пад падазрэннем акупацыйных уладаў, аднак працягвала друкаваць свае паэтычныя творы, прысвечаныя Беларусі. У 1948 годзе арыштавана разам з мужам савецкімі ўладамі, адарвана ад малога сына, якога прытулілі чужыя людзі, перавезена з Прагі ў Мінск і Вярхоўным судом БССР прыгаворана да 25 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Вызвалена са зняволення толькі ў 1956 годзе, пасля чаго вярнулася ў Беларусь і да смерці жыла ў бацькоўскай хаце мужа Івана Геніюша ў Зэльве, дзе напісала галоўныя свае творы, рукапісы якіх і склалі асноўную частку архіва пісьменніцы. На вялікі жаль, нічога з ранняй творчасці паэткі ў архіве не захавалася. Зберагліся толькі старыя фотаздымкі роду Геніюшаў, якія экспануюцца на выставе.

Першая кніга ў БССР "Невадам з Нёмана" выдадзена намаганнямі М. Танка і У. Караткевіча толькі ў 1967 годзе. З дазволу Ларысы Антонаўны У. Караткевіч зрабіў у рукапісе зборніка невялікія праўкі, купюры, інакш Галоўліт не прапусціў бы гэту кнігу. Ды па сутнасці кожная праўка ўзгаднялася з Ларысай Антонаўнай. Рукапіс гэтага зборніка з паметкамі Уладзіміра Сямёнавіча таксама экспануецца на выставе.

Экспазіцыю складаюць раздзелы: "Жыццё і дзейнасць у фотаздымках і дакументах", "З творчай спадчыны", "Выданні розных гадоў", "Аб жыцці і творчасці", "З асабістага збору фотаздымкаў", "З асабістай перапіскі".

Раздзел "Жыццё і дзейнасць у фотаздымках і дакументах" уключае асабістыя дакументы Ларысы Геніюш, рэдкія фотаздымкі паэткі, яе сям'і, сям'і сына. Сярод матэрыялаў варта адзначыць аўтабіяграфічны нарыс "Сто ранаў у сэрца", які рыхтаваўся Ларысай Антонаўнай па просьбе Я. Казекі для кнігі аўтабіяграфій пісьменнікаў "Вытокі песні" (Мн., 1973). Ларыса Антонаўна пагадзілася даць накід свайго жыццяпісу і праз некаторы час праз М. Прашковіча перадала ў выдавецтва згаданы рукапіс. Пасля азнаямлення з нарысам у выдавецтве Л. Геніюш было прапанавана змякчыць апошнія старонкі рукапісу і змяніць назву нарыса. Мужны і бескампрамісны чалавек Ларыса Антонаўна не магла пагадзіцца і не пагадзілася правіць і выкрэсліваць тое, што яна лічыла прынцыповым, а Я. Казеку напісала — хай гэты дакумент пакуль паляжыць ды пачакае лепшых часоў. Цяпер з гэтым цікавым рукапісам можна азнаёміцца на выставе.

У раздзеле "З творчай спадчыны" экспануецца ўжо згаданы вышэй рукапісны зборнік "Невадам з Нёмана", рукапісны зборнічак дзіцячых вершаў "Добрай раніцы, Алесь", рукапіс балючых успамінаў пісьменніцы, перададзены ў наш аддзел М. Чарняўскім і названы ім пры выданні "Споведзь". У гэтым раздзеле можна ўбачыць таксама рукапісы паэм "Куфар", "Даўніна", "Залозкі", агульныя сшыткі з накідамі вершаў, запісамі дзённікавага характару, запісныя кніжкі паэткі. Нельга тут не адзначыць і паэму "На пераломе дзён". На палях першай старонкі рукапісу — пісьмо Л. Геніюш да А. Пяткевіча з просьбай азнаёміцца з гэтым творам і ацаніць яго. А. Пяткевіч вярнуў рукапіс паэмы Ларысе Антонаўне з кароткім водгукам на апошняй старонцы. Тут жа выстаўлены нотныя запісы песень на словы Л. Геніюш з дарчымі надпісамі кампазітараў.

На выставе можна ўбачыць усе выданні твораў Л. Геніюш, за выключэннем толькі невялічкай кніжачкі "Дзевяць вершаў", выдадзенай у 1987 годзе ў Беластоку, якой, на жаль, у нашай бібліятэцы няма.

У раздзеле "Аб жыцці і творчасці" экспануюцца кнігі і даведнікі з артыкуламі пра Л. Геніюш, як друкаваныя, так і рукапісныя матэрыялы розных аўтараў, якія даследавалі творчасць Ларысы Антонаўны. Сярод згаданых матэрыялаў варта адзначыць даволі ёмісты рукапіс даследавання сябра паэткі, якому таксама выпаў суровы лёс, літаратуразнаўцы М. Прашковіча "Шлях паэта" (разгляд паэзіі Л. Геніюш).

У невялікім раздзеле "З асабістага збору фотаздымкаў" можна ўбачыць сабраныя з любоўю Ларысай Антонаўнай даволі рэдкія фотаздымкі Ф. Багушэвіча, У. Галубка, Р. Шырмы, М. Гарэцкага, Я. Коласа, М. Танка, В. Быкава, У. Караткевіча, Я. Янішчыц, Зоські Верас і інш.

Завяршае выставу раздзел "З асабістай перапіскі", дзе прадстаўлены асобныя лісты сына, вядомых беларускіх пісьменнікаў, вучоных, даследчыкаў, адрасаваныя Л. Геніюш. Тут можна ўбачыць пісьмы В. Быкава, М. Танка, У. Караткевіча, А. Салаўя, Зоські Верас, М. Улашчыка, Ф. Янкоўскага, А. Пальчэўскага і інш. У лістах М. Ермаловіча і Я. Янішчыц ёсць і вершы, прысвечаныя Ларысе Антонаўне. Выстаўлены тут разам з лістамі і вершаваныя творы сына. Варта адзначыць таксама лісты М. Львовіч і В. Чэкіна з перакладамі на ўкраінскую і рускую мовы вершаў Ларысы Антонаўны.

Сардэчна запрашаем чытачоў "ЛіМа" наведаць нашу выставу. Перад намі магчымасць зазірнуць праз першакрыніцы ў творчую майстэрню паэткі, дакрануцца да яе няпростага жыцця. На жаль, магчымасць пакуль што даволі рэдкая. Гэта звязана з абмежаваннямі на карыстанне архівам Л. Геніюш, якія былі агавораны сынам пісьменніцы пры перадачы архіва ў ЦНБ.

**Яніна КІСЯЛЁВА,**
**Марыя ЛІС**

ПАМЯЦЬ

Пра пакуты, якія абрынула на краіну Вялікая Айчынная вайна, пра гераізм салдат, партызан, падпольшчыкаў, працаўнікоў тылу напісана многа. Пісалася і пра жахі палону, пра фізічныя мукі, звязаныя з ім. Але пра адзін з жахаў, што чакаў палонных пры вызваленні, — пісалі мала, амаль што нічога. Не баязліўцаў, а дастойных вояроў, каторыя да канца выканалі свой абавязак абаронцаў Радзімы, не хаваліся за чужыя спіны, не раз глядзелі смерці ў твар і апынуліся ў варожым палоне з-за збегу нешчаслівых абставін, а потым сталі вінаватымі без віны сярод сваіх. Яны, бедакі, а іх былі тысячы, пасля ўсяго перажытага ўжо не маглі адчуваць хараство жыцця. Яны вянулі, гібелі і “с досадой тайною обманутых надежд” дачасна адыходзілі ў нябыт. У памяць пра іх я і пішу.

# Трагедыя “Сталінскага сокала”

Менавіта такі лёс быў наканаваны майму колішняму вучню, лепшаму сябру майго брата Расціслава Міхаілу Аляксандравічу Кручонку...

Лёс Мішы Кручонка не мог не адзывацца болем у сэрцы яшчэ і таму, што я не магла яму нічым дапамагчы.

Сям'ю Кручонкаў у Астрашыцкім Гарадку ўсе вельмі паважалі. Гэта небагатая, дружная, працавітая сям'я была вельмі сумленнай, добразычлівай да людзей. Чацвёра дзяцей у бацькоў: Міша — самы старэйшы, Ніна, Галя і Ніла. Дзяцей змалку прывучалі не цурацца работы, і, як выявілася пазней, усе яны выраслі працавітымі, прыветнымі, шчырымі. Міша быў таленавітым хлапчуком: любіў і ўмеў рамантаваць і рэгуляваць маторы, радыёпрыёмнікі, добра маляваў, навучыўся хораша граць на скрыпцы. Неяк нішто благое да яго не прыставала: не цягнуўся да чаркі, ніколі нікога не зняважыў, нідзе брыдка не вылаяўся, заўсёды прыходзіў на помач. З гадамі выцягнуўся, стаў прыгожым, стройным шэравокім юнаком. Шэравокім? Яго вочы вылучалі нейкае асаблівае прывабнае святло, і гэта часам мяняла колер вачэй. Шэрыя? Сінія? Блакітныя? Вельмі харошыя вочы.

Міша і наш Росцік пабраталіся незадоўга да вайны, перад прызывам у войска; яны сустрэлі вайну ў салдацкай форме. Міша скончыў Грозненскае лётнае вучылішча, мой брат стаў падводнікам, трапіў у марскую пяхоту. У Мішы — палёты, у Росціка — паходы, у якіх яны не раз сустракаліся са смерцю. А перамога была ўсё бліжэй і бліжэй.

Яны перапісваліся. Вось што напісаў Міша на фотаздымку, які паслаў майму брату 6.01.1944: “Дару табе, дарагі брат. Магчыма, пасля перамогі так будзем сядзець пляча да пляча і падымем чаркі за нашу перамогу. Успомнім, якія мы былі і якімі сталі. Міша”.

Як толькі была вызвалена Беларусь, прыйшлі лісты ад Міхаіла яго бацькам, а неўзабаве і мне, настаўніцы. Гэта былі стрыманыя лісты: радасць, што вызвалены ад жорсткага ворага родныя мясціны, за сяброў, якія адносна шчасліва перабылі ліхалецце, і вельмі скупа — пра сябе. Але нават праз скупыя радкі высвечвала адчуванне асабістай годнасці, усведамленне таго, што ён дастойна выконвае свой салдацкі абавязак.

Яшчэ адзін “ліст” на фотаздымку, які Міхаіл у пачатку восені 1944 прыслаў сваім родным: “Памяць родным тату, маме, Ніне, Галі, Леначцы ў дні Айчыннай вайны 11 верасня 1944 года. Толькі што мы ўтраіх адлёталі высока ў бяскрайнім суровым блакітным варожым небе. Пад намі толькі што было звярынае фашысцкае гняздо. Звяры яшчэ агрызаюцца. Чорныя клубы дыму ахутвалі нашу чырвона-зорную ластаўку. Ды не, нас не саб'еш са шляху перамогі. Выканаўшы баявое заданне, шчасліва вярнуўшыся дамоў, будзем гуляць, каб удыхнуць на поўныя грудзі. І вось ідзём і разважаем пра наша жыццё, што жыццё цяпер, калі ты гэта жыццё здабываеш сам, вырываеш з чорных лап смерці, вось тады такое жыццё цікавае і ў ім хочацца жыць, каб дасягнуць перамогі. Жадаю вам многа гадоў! Ваш сын Міша”.

Яму хацелася вярнуцца дадому ў лётнай форме, з усімі ўзнагародамі. Але больш не было ні лістоў, ні фотаздымкаў. Прыйшла “пахаронка”.

Міхаілавай маці прызначылі мізэрную пенсію...

Пасля перамогі вярнуўся з фронту мой брат. Яшчэ праз нейкі час апынуўся дома і... Міша. Брату пры сустрэчы ён сказаў: “Наш самалёт збілі, мяне выкінула з кабіны, і я раскрыў парашут. Пакуль боўтаўся ў паветры, фашысты перабілі ногі. Упаў у ваду, адкуль мяне падабраў нямецкі катэр. Хацелі расстраляць, але потым здалі ў канцлагер. Вызвалілі амерыканцы — і з гэтым усё прапала. Вельмі шкада маіх хлопцаў”. Міхаіл думаў, што яго сябры загінулі.

Які розны лёс! Так, Расціслава, цяжка параненага незадоўга да Дня Перамогі, лячылі ў савецкім шпіталі. Ён вярнуўся дадому здаровы, бадзёры, з важкімі ўзнагародамі і ўсімі грамадзянскімі правамі. Міхаіл жа, які ваяваў не горш, а напакутаваўся больш, не меў нічога, акрамя кляйма палоннага. Амерыканцы перадалі палонных савецкім саюзнікам. Фільтруючыя органы разбірацца не сталі: недалечанага, аслабленага Міхаіла Кручонка саслалі ў Краснадон на шахты, адкуль яго, зусім хворага, урэшце камісавалі.

Сустракаючы Мішу, я заўважала, як цяжка перажывае ён сваю бяду. Яму было толькі 25 гадоў, а хадзіў сутульваючыся, апусціўшы долу патухлыя вочы. Працаваў маляром. Часам у клубе Астрашыцкага Гарадка дэманстравалі кінафільмы. “Міша, — расказваў брат, — не мог глядзець фільмы пра вайну: на вочы набягаюць слёзы, і ён пакідае залу. Аднойчы, калі глядзелі з ім фільм, у якім лёс героя быў падобны на Мішаў (пасля палону пілот церпіць тыя ж мукі), Міша не вытрываў, напружаную цішыню парушыла мужчынскае рыданне, і мы паспешліва выйшлі на вуліцу”.

Я тады не вельмі разумела яго: пасля такой вайны вярнуўся дадому жывы — трэба радавацца жыццю. Але ён, прыніжаны, зняважаны дзяржавай, якую так самааддана адстойваў, радавацца не мог. Праўда, спрабаваў неяк уладкавацца: ажаніўся, нарадзілася ў яго двое дзяцей, але несправядлівасць усё гняла, гнула долу крыўда. І плакала вечарамі скрыпка, здабытая ім у Краснадоне. Адкрываліся язвы на недалечаных нагах, адольвалі іншыя хваробы.

І неўзабаве Міхаіл Кручонак памёр. Яму б жыць і тварыць, стаць вынаходнікам-інжынерам, мастаком, музыкантам. Не было суджана...

Ішлі гады. Раптам, гартаючы газету “Советская Белоруссия” (19 лютага 2000 года), бачу фотаздымак: тры ваенныя пілоты, і адзін з іх — Міхаіл Аляксандравіч Кручонак. Здымак суправаджаюць успаміны Кандрата Мікалаевіча Калесніка, і ў іх ён вельмі цёпла расказвае пра Міхаіла, пра хараство франтавога сяброўства, якое высока цэніць мужнасць, надзейнасць, вернасць.

Праз рэдакцыю дазнаюся адрас аўтара, яго тэлефон, званю, дамаўляюся аб сустрэчы. І вось я ў невялічкай утульнай кватэры Калеснікаў — Кандрата Мікалаевіча і Галіны Карпаўны. Галіна таксама ваявала: на фронце была пражэктарысткай, не раз смерць цікавала і за ёю — на пражэктары фашысты



*Міхаіл Кручонак, 1944 г.*

скідалі бомбы, дасылалі снарады і кулі. Абышлося. Дайшла Галіна да Берліна. Я думаю: шчасце, што яны выйшлі з вайны жывымі, шчасце, што знайшлі адзін аднаго. Мне проста і прыемна з імі.

Пачынаю роспыты пра Міхаіла. Кандрат Мікалаевіч вельмі шкадуе: калі ён даведаўся, што Міша не загінуў, жыве ў Астрашыцкім Гарадку, і захацеў яго наведаць, было позна, выявілася: “Друг мой памёр”. Кандрат Мікалаевіч апавядае, які дружным быў іх экіпаж. Кожны з тройкі вызначаўся нечым важным, адметным, яны ўдала дапаўнялі адзін аднаго: камандзір Мікалай Мацвееў мог імгненна прымаць адказныя рашэнні, Кандрат Калеснік умеў вызначаць найбольш надзейны маршрут палёту, Міхаіл Кручонак меў “залатыя рукі”: заўсёды безадмоўна стралялі кулямёты, не падводзіла рацыя. “Мы так здружыліся, што былі — як браты”.

Больш чым год яны паспяхова выконвалі баявыя заданні. Іх, і ў гэта яны самі верылі, лічылі “вязучымі”: за гэты час з 30 экіпажаў, з якімі яны пачыналі службу, загінула 20. “Так, наша служба ў 742-ім Астроўскім асобым разведпалку напачатку была вязучай. Удала зрабілі і больш чым 30 баявых вылетаў над Прыбалтыкай. У ракавы верасьнёўскі дзень мы атрымалі загад разведаць наяўнасць варожай авіяцыі на Тартускім аэрадроме, выявіць рух варожых танкаў у напрамку да фронту. Гэтае заданне раней было дадзена іншым экіпажам. Не вярнуліся, а якія хлопцы былі! Мы разумелі, што і ў нас шанцаў на ўдачу амаль няма...”.

Кандрат Мікалаевіч задумаўся, змоўк, неўзабаве зноў загаварыў: “І тут я ўспомніў, як у 1942 годзе вучылі мяне “старыя”: “Зразумей, хлопец: калі на карце паміж пунктамі А і Б самая кароткая адлегласць прамая, дык на практыцы часцей за ўсё — гэта прамая на той свет. Трэба ўмець хітраваць, манеўраваць”. Калеснік падаў ідэю ляцець на Тарту ад Таліна. Далей? Ну што ж: “Возьмем гарючага пад завязку. Вораг адтуль нас не чакае, ды і сонца ў гэты час будзе нашым саюзнікам — асляпіць фашыстаў”. “Што ж, давайце, — сказаў камандзір палка. — Вельмі патрэбны разведвесткі. Але калі ўжо давядзецца падаць, пастарайцеся на сваёй тэрыторыі”.

Спачатку ім быццам шанцавала, хаця каля Таліна трапілі пад моцны абстрэл берагавой артылерыі. З'явіліся прабоіны на плоскасцях, але маторы працуюць. “І вось мы над Тартускім клятым аэрадромам. Мікалай прыглушае рухавікі, я ўключаю апарат, фатаграфую. І тут чую Мішаў голас: “Месеры! Месеры!” А хаця наш самалёт Пе-2 (Петлякова) быў аснашчаны і браней, і чатырма кулямётамі, меў добрую манеўранасць, ён зусім слабы супраць месера. Усё вырашалі нейкія секунды, і камандзір пайшоў на вялікую рызыку: увёў самалёт у штопар. З 8000 метраў мы знізіліся да 250. Здавалася, вочы вылезуць з арбіт, разарвецца галава, але вывесці самалёт са штопару ўдалося. Зусім блізка ад зямлі. Магчыма, і таму, што ў ім не было ўжо Мішы: тут і невялікі цяжар меў значэнне. Мішу ж у час штопару выкінула з кабіны”.

Кандрат Мікалаевіч зноў змаўкае, прыгадваючы тыя цяжкія падзеі, потым працягвае: “Вярнуліся, далажылі па форме. Выявілася, што і здымкі атрымаліся яскравыя. Нас віншавалі, выдалі, як прэмію, бляшанку спірту... А як хораша Міша маляваў, колькі партрэтаў зрабіў сваіх сяброў і камандзіраў, калі яны прасілі. І быў ён заўжды вясёлы. Любіў жарты, розыгрышы, але яны былі нейкія добрыя, на яго ніхто не крыўдзіўся. Наадварот, яго весялосць гарнула да яго нашых пілотаў. Неаднойчы мы былі разам у баі. Праклятыя месеры! Вельмі важна ўпасці на сваю зямлю. Але гэта — як павязе. Тым больш над вадой. І камандзір памёр нядаўна, у 1991 годзе...”

Вера сяброў у Мішу не пахіснулася, іх павага да яго не зменшылася. І калі б спыталі іх думку, яны здолелі б абараніць свайго баявога сябра...

Я цёпла развіталася з Калеснікамі. Потым думала: і палкаводцы, і радавыя, і палітычныя зняволеныя напісалі праўдзівыя ўспаміны пра вайну, пра допыты і лагеры, але мне не даводзілася чытаць успаміны тых, хто “фільтраваў”, тых, хто распрацоўваў людажэрскія інструкцыі аб парадку “фільтрацыі”, тых, хто іх выконваў: зневажаў людзей, здзекаваўся на допытах. Няма такіх успамінаў! Ну няхай бы насмеліўся хоць адзін, хоць бы і апраўдваючыся тым, што “час быў такі”, расказаць праўду аб бязглуздасці інструкцый, аб уласнай самастрахоўцы, бяздушнасці, неапраўданай пільнасці, пакаяцца ў нечым і праз гэта вылюднець. Дзе там! Не раскажа. Дажывае, застаўшыся, свой век. А можа, і не тоіцца, і хваліцца сваімі ўзнагародамі. За што? За якія такія баявыя заслугі? І знікне, не пакінуўшы па сабе добрай памяці.

А светлая памяць пра Міхаіла Аляксандравіча Кручонка жыве ў сэрцах тых, хто яго знаў, родных, блізкіх, сяброў, і пяройдзе ад яго дзяцей да ўнукаў і праўнукаў.

І яшчэ. Нідзе: ні ў адной з ваяваўшых еўрапейскіх краін, ні ў Амерыцы, ні ў Японіі — не было такіх ганебных адносін да сваіх ваеннапалонных, як у нашай былой дзяржаве.

**Ларыса КАРОТКАЯ**

АДГАЛОСКІ

# Спадзяёмся, што праўда пераможа

Выпадкова трапіў мне ў рукі экземпляр “ЛіМа” за 4 жніўня, і больш чым прыемна здзівіў. У наш час, калі, здавалася б, уся інфармацыйная прастора запоўнена “жоўтай” альбо адкрыта і прымітыўна агітацыйнай прэсай, — раптам шчырая заклапочанасць аб лёсе і праблемах беларускай нацыі, сапраўднае перажыванне аўтара за здароўе людзей сённяшняга і будучага пакаленняў.

Маю на ўвазе інтэрв'ю з пісьменнікам Васілём Якавенкам “Хвароба Шумілава, ці не выклік багам?”, прафесійнае выкладанне фактаў у якім павінна прымусіць усіх шчырых людзей біць у набат.

Як, сапраўды, можна ў дэмакратычнай дзяржаве ўпарта замоўчваць той факт, што прамянёвая хвароба альбо яе першасныя праявы афіцыйна не дыягназуюцца, і, як вынік, не ажыццяўляецца элементарная прафілактыка і лячэнне! Няўжо незразумела, што, калі хвораму чалавеку ставяць дакладны дыягназ, ён, натуральна, сам у многім можа сабе дапамагчы: пераменай ладу жыцця, спосабамі і сродкамі народнай медыцыны...

“Знаходкай” вашага выдання падзялілася з аднадумцамі, і мы вельмі спадзяёмся, што рэдакцыя працягне падобныя публікацыі, спадзяёмся, што “апрытомнее” Міністэрства аховы здароўя, дойдзе праўдзівая інфармацыя аб магчымасці рэальнай барацьбы з наступствамі чарнобыльскай катастрофы да прэзідэнцкай адміністрацыі і асабіста да прэзідэнта.

Хацелася б з дапамогай вашага выдання атрымаць адказы на наступныя пытанні:

**Чым канкрэтна абумоўлена тое, што ў класіфікатары Міністэрства аховы здароўя РБ няма хваробы “сіндром хранічнай стомленасці і імуннай дысфункцыі”?**

**Чаму “справа Шумілава” не стала аб'ектам прафесійнага і прававога разбіральніцтва ў вышэйшых інстанцыях, бо праблема выратавання нацыі не асабістая справа “былога” ўчастковага ўрача?**

**Святлана САЛАДУХІНА**
*г. Мінск*

## Творчы подзвіг

**Пагадзіцеся, што вельмі рэдка можна ўбачыць адначасова і Спаса-Еўфрасіннеўскую царкву ў Полацку, і касцёл у Івянцы, і дом-крэпасць у Гайцюнішках, і Замкавую вежу ў Нясвіжы, і царкву ў Сынкавічах. Пералік помнікаў беларускага дойлідства можна доўжыць, бо гэта і Камянецкая вежа, і Каложская царква ў Гродне, і Спаса-Праабражэнская царква ў Заслаўі і многае-многае іншае. Што казаць, пашанцавала светлагорцам. Варта ім завітаць у мясцовую карцінную галерэю "Традыцыя" імя Г. Пранішнікава, як усе гэтыя помнікі дойлідства паўстануць перад імі ва ўсёй сваёй спрадвечнай**



**прыгажосці. Тут экспануецца выстава нашага слыннага мастака, першага намесніка старшыні праўлення Саюза мастакоў Беларусі Уладзіміра Басалыгі.**

**24 аўталітаграфічныя творы прадставіў на яе Уладзімір Самойлавіч. Кожны не толькі дакументальна ўзнаўляе гэтыя помнікі, але і дае магчымасць адчуць мастакоўскае стаўленне да іх. У які ўжо раз, гледзячы на іх, думалася, што сапраўднае майстэрства застаецца быццам незаўважаным, бо яно выяўляе тое, што ўвасоблена, а не само сябе. Уладзімір Басалыга валодае менавіта такім майстэрствам. Зноў і зноў прыгадваліся яго словы: "Падарожжы і вандроўкі па Беларусі, і перш за ўсё, сустрэчы з "музыкай у камені", не пакідалі мяне ў спакоі. Хіба можна прайсці каля Сынкавіцкага храма і не адгукнуцца на яго таямнічае хараство, або ці можна знайсці моўныя і выяўленчыя сродкі, каб апець яго велічную прыгажосць?.. Розум не пакідае надзеі, але сэрца прымушае ўзяць у руку аловак і паперу. Так выспявала задума і распачалася праца, якая расцягнулася больш як на 10 гадоў".**

**Асабіста мне даўно зразумела: тое, што зрабіў Уладзімір Басалыга, — творчы подзвіг. Але калі адкрываючы ў нашым горадзе яго выставу, сказаў аб гэтым, то менш за ўсё спадзяваўся, што маё выказванне так горача падтрымаюць народны мастак Беларусі Леанід Шчамялёў і наш зямляк — загадчык кафедры манументальна-дэкаратыўнага мастацтва Беларускай акадэміі мастацтваў Уладзімір Зінкевіч і многія іншыя.**

**Уладзімір Самойлавіч не толькі ўвасобіў тое, што ёсць, але і ўзнавіў тое, чаго ўжо недаравальна няма. Знявечаныя даўнасцю, але, дзякуй Богу, яшчэ стаяць Камянецкая вежа і Каложская царква ў Гродне, Спаса-Еўфрасіннеўская царква ў Полацку. Ёсць і ўзор беларускай готыкі — муры вежаў Мірскага замка і ўваход у касцёл у Ішкальдзі. Яшчэ пазнавальныя прыкметы рэнесансу ў вежы замка Любчы, у Спаса-Праабражэнскай царкве ў Заслаўі, у Замкавай вежы Нясвіжа. Дзякуючы У. Басалыгу, мы зноў пазнаём вышыні барочнага дойлідства на Сафіі ў Полацку, Францысканскім касцёле ў Гродне і Пінску, Езуіцкім касцёле ў Нясвіжы і ўсё гэта перададзена ўзнёсла, паэтычна усё любоўна ўпісана ў прасторы нашай роднай Бацькаўшчыны. Цудоўны майстар аўталітаграфіі, У. Басалыга здолеў зрабіць тое, што не зрабілі ні папярэднікі, ні сучаснікі.**

**І калі на наступны дзень пасля адкрыцця выставы я знаёміў з ёй гасцей з італьянскага горад Ф'юджы, трэба было бачыць іх захапленне нашай дойлідскай гісторыяй. Гэта толькі частка таго, што некалі было нашай прыгажосцю і славай.**

**А тады, на ўрачыстым адкрыцці, шмат прыхільнікаў выяўленчага мастацтва ўважліва ўглядаліся ў гэтыя творы, слухалі Л. Шчамялёва, які гаварыў аб сапраўды нацыянальным таленце У. Басалыгі, аб яго бескампраміснай мэтанакіраванасці. Своеасаблівым прызнаннем у любові да гэтага мастака прагучала тады выступленне У. Зінкевіча: "Для нас, маладзейшых Уладзімір Самойлавіч застаецца прыкладам, як у любых жыццёвых абставінах быць самім сабой, не паступацца галоўнымі мастацкімі прынцыпамі". І ў той час амаль такую ж удзячнасць выказаў сам віноўнік урачыстасці Леаніду Дзмітрыевічу Шчамялёву, прызнаючыся, што менавіта сяброўства з ім спрыяла і спрыяе яго творчай пазіцыі. А былі яшчэ шчырыя словы, сказаныя братам мастака, вядомым графікам і дырэктарам мастацкага вучылішча М. Басалыгам, старшынёй Светлагорскага гарвыканкама Б. Пірштуком, дырэктарам цеплаэлектрацэнтралі М. Барбукам.**

**Мне застаецца толькі дадаць, што ў час адкрыцця выставы, гаворачы аб творчым подзвігу Уладзіміра Басалыгі, я выказаў меркаванне, што гэты мастак даўно варты быць адзначаным Дзяржаўнай прэміяй Беларусі. У адказ пачуў шчырыя апладысменты.**

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ**

*Фота В. СТРЫБУКА*

# Вечны вяртальнік у Каралішчавіцкім лесе

З КНІГІ ПРОЗЫ "ПА ДАРОЗЕ ДАДОМУ"

Алесь ЖУК

Атрымалася так, што для майго пакалення ды і для людзей старэйшага веку многія старонкі нашай гісторыі і гістарычныя постаці доўга заставаліся невядомымі. Шчаслівы быў той, каму пашанцавала быць знаёмым са старэйшымі таварышамі, людзьмі дасведчанымі. Такога чалавека ў свой час напаткаў Рыгор Семашкевіч. Яго, худзенькага вясковага хлопчыка, прыкмеціў у бібліятэцы Мікола Ермаловіч за стараннасць, за цягу да кнігі. У тым, што Рыгор Семашкевіч стаў не толькі адметным паэтам, але і глыбокім даследчыкам беларускага адраджэнскага руху, непасрэдная заслуга Міколы Іванавіча. Пра знаёмства з Рыгорам Семашкевічам ён расказваў мне ў восеньскай электрычцы на Маладзечна, куды дабіраўся адвячоркам у госці да дачкі. Пішу гэтыя радкі на пачатку вясны, калі не стала Міколы Іванавіча і думаю, што гэта наступная вялікая постаць, якая страчана беларускай гістарычнай навукай пасля адыходу Мікалая Улашчыка.

Яшчэ студэнтам чуў, што ёсць такі беларускі гісторык, які жыве і працуе ў Маскве. Што ім зроблена — не ведаў. На слыху прозвішча Мікалая Улашчыка з'явілася нават і ў студэнтаў пасля выхаду 32 тома "Полного собрания русских летописей", складальнікам якога быў Мікалай Мікалаевіч. З'явілася нагода мець свае беларускія летапісы. Але на Беларусі паступіла даволі абмежаваная частка тыражу. Здабыць сабе знакаміты трыццаць другі том магло толькі начальства і зацятыя кніжнікі, у якіх было моцнае сяброўства з гандлярамі. Гэта быў час, калі лічылася модным мець у кватэры кніжныя паліцы, застаўленыя кніжкамі, таму кніга трапляла ў разрад дэфіцытных тавараў, а дэфіцыт, як і ўсё ў той час, даставалася па блату.

Летапісы я дастаў прачытаць, але асоба Мікалая Мікалаевіча ва ўяўленні заставалася рамантычна-загадкавай.

Прачытаў Улашчыка праз многа гадоў, калі змог трапляць у Каралішчавічы. Думаю, пішучы гэтыя радкі, што гісторыя Каралішчавічаў заслугоўвае асобнае кнігі, калі хочаце — нават асобнага даследавання. Можна сабраць кнігу ўспамінаў пісьменнікаў рознага ўзросту. Слава Богу, жывыя яшчэ тыя, хто памятае Каралішчавічы з самага пачатку. Тыя Каралішчавічы, якія збіралі на лета цэлыя пісьменніцкія сем'і, падкормлівалі ў галодны пасляваенны час, ядналі ля раскладзенага Міхасём Лыньковым вячэрняга вогнішча. А колькі быліц і небыліц звязана з Каралішчавічамі, колькі неверагодных прыгод здаралася там і з тымі, што сёння паўсталі ў бронзе як класікі, і з болей маладзейшымі іх калегамі! Уяўляецца, якая атрымалася б чалавечная, цікавая, вясёлая, павучальная кніга і пра беларускую літаратуру, і пра яе творцаў, і пра тых, хто шчыра любіў пісьменнікаў, клапаціўся пра іх. А які на сённяшні дзень гэта быў бы цікавы філіял Літаратурнага музея!

Мною запомніліся тыя Каралішчавічы, якія паціху атухалі. Амаль забалоцілася, зарасла травою невялікая азярынка ля іх у лесе, ля якое ў свой час гэтак добра было паліць вечаровае вогнішча. На той час адзін за адным мяняліся дырэктары Дома творчасці, людзі выпадковыя, якія пастрэльвалі амаль ручных вавёрачак, дабіраліся да дзікоў і ласёў у навакольным лесе і паціху раскрадалі маёмасць, якая яшчэ вартая была раскрадання.

"Вялікі" Саюз пісьменнікаў ужо стаў багатай арганізацыяй, акрамя "Кактэбеля" пабудаваў фешэнебельную "Піцунду", з'явілася магчымасць паляжаць на пляжы побач з маскоўскімі "класікамі" ва ўтульных "Гаграх". Закончыліся і сямейныя летнія выезды ў Каралішчавіцкі лес. Будавалася і свая "Іслач". Новая кальцавая дарога падбіралася да двухпавярховага драўлянага катэджа. У Каралішчавічах гэтага часу найчасцейшымі наведвальнікамі сталі пісьменнікі старэйшага ўзросту, якіх ужо не вабілі паўднёвыя далячыні, якім прыемней была родная сумота і адзінота.

Я ж вырываўся ў Каралішчавічы ў канцы лютага — на пачатку сакавіка тыдні на два не толькі дзеля працы, а дзеля таго, каб пахадзіць на лыжах. Дзякуючы таму, што за кіламетры двутры ад Дома творчасці пабудавалі спартыўны комплекс "Стайкі", у лесе спартсменамі былі накатаны цудоўныя лыжні.

Пра традыцыю лыжных прагулак добра памятаюць старэйшыя за мяне пісьменнікі. На лыжы разам з маладзейшымі станавіўся яшчэ і Мікола Лобан, ды і лыжы былі ў Доме творчасці дзеля гэтага спецыяльна. "Лыжны парк" на той час ужо разваліўся, лыжы я прывозіў з дому, а старэнькі Мікола Лобан, які з цяжкасцю дабіраўся да сталоўкі з-за свае невылечнае хваробы, толькі з зайздрасцю ўздыхаў, успамінаючы былыя лыжныя прагулкі.

Асаблівая, ні з чым непараўнальная асалода была ў позніх, амаль начных прагулках па лесе. Пры поўні ў лесе панавала відната, толькі відната начная, з крыху сіняватымі ценямі на пухкім іскрыстым сняжку. І пагоркі на лесавой прасецы здаваліся далёка адзін ад аднаго. І начны ветрык пасвістваў увушшу неяк інакш, чым удзень. Гэта была адна з апошніх радасцяў, якія дарылі мне адыходзячыя Каралішчавічы.

І радасць дзённых прагулак з кійком па дарогах пасля абеду ў гутарках з аксакаламі. Пра загадку смерці Янкі Купалы гаварыў Анатоль Астрэйка, які на той час жыў разам з паэтам у гатэлі "Масква", пра смерць Васіля Шашалевіча расказваў Сяргей Грахоўскі, пра свае ваенныя прыгоды бяскрыўдна апавядаў Рыгор Няхай, сурова перабіраў у памяці перажытае Рыгор Бярозкін, які ва ўспамінах неяк балюча, быццам нанава, перажываў сваё жыццё. Цяпер мне здаецца, што старэйшыя знарок расказвалі гэта ў прысутнасці маладзейшага, каб не прапала, запісалася. У той час успаміны былых вязнеў і ахвяр былі не ў модзе. Наўрад ці думалася Сяргею Грахоўскаму, што дажыве ён да таго часу, калі можна будзе напісаць свае дакументальныя аповесці, пабачыць іх надрукаванымі і нават атрымае Дзяржаўную прэмію.

З прагуляншчыкаў стрыманасцю ў гаворцы вылучаўся Мікола Мікалаевіч Улашчык. Ён заставаўся хутчэй слухачом, хаця цяпер ведаю, што меў многае расказаць. Ён адзін не абмяжоўваўся праменадамі пасля сталоўкі па дарозе.

Першы раз я здзівіўся, як убачыў яго ў лесе ў той час, калі астатнія альбо адпачывалі пасля абеду, альбо сядзелі за пісьмовымі сталамі. У чорным паліто, шырокі ў плячах, са шчэпленымі ззаду рукамі ён ішоў няспешнаю хадою чалавека, які мае мэту і ўмее ісці доўга, каб не стаміцца. Накатаная лыжня трымала яго, і ён не спяшаўся ісці, думаў пра сваё, пакіўваў галавою. Нешта падказала мне, што ў такім выпадку чалавека нельга трывожыць. Я нячутна сышоў у лес і на будучае стараўся не трапляць на вочы ў час яго лясных праходак...

Гэтая хада па лесе згадалася мне, калі ў мінулым годзе чытаў раздзелы з кнігі Мікалая Улашчыка "Краязнаўства" пра яго студэнцкія бадзянні па Тураўскім і Слуцкім Палессі. Ён молада, з гумарам апісваў, як вясковыя хлапчукі, калі ўбачылі падарожнага, патлатага, запыленага, чорнага, уцякалі ад яго з крыкам: "Цыган ідзе!"

Запомнілася, што ў адрозненне ад іншых рэпрэсаваных, Мікалай Мікалаевіч ні разу не загаварыў пра свае блуканні па пакутах, неаднаразовыя арышты і высылкі. Цяпер я ведаю, што аднойчы яго выпусцілі на волю як безнадзейна хворага на туберкулёз, Улашчык выжыў. І тады яго зноў пасадзілі. Увогуле дваццаць гадоў высылак і лагераў. Сістэма ведала, каго рабіла ахвяраю, каго трэба было прымусіць маўчаць.

Усё жыццё пасля рэабілітацыі запаветнай марай Мікалая Мікалаевіча была вяртанне на радзіму. Дзесяткі гадоў ужо вядомы сусветна вучоны, высока ацэнены і паважаны расійскімі калегамі, ён дзесяткі гадоў ішоў на Беларусь і жывым дайсці не змог. У АН БССР яго так і не пусцілі. За вучонага хадайнічалі такія ўплывовыя людзі, як Пятрусь Усцінавіч Броўка, Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі. Падтрымліваў Мікалая Улашчыка магутны па тым часе прэзідэнт АН СССР — абяцаў з цэнтра выдзеліць дадатковую стаўку, вырашыць кватэрнае пытанне. Не дапамагло. І не толькі таму, што сістэма памятала тых, каго хоць аднойчы накрывала чорным крылом, не толькі партыйнае кіраўніцтва, на якое цяпер прынята спісваць усе грахі, не дазволіла. За невяртаннем Мікалая Мікалаевіча на радзіму стаялі дробязныя прыватныя інтарэсы, ды і яго сімпатыі і антыпатыі.

Не сакрэт, што ў жыцці Мікалай Улашчык стараўся быць падобным на свайго настаўніка Уладзіміра Іванавіча Пічэту. Улашчыку яшчэ студэнтам пашанцавала быць на зборцы маладых пісьменнікаў, перад якімі выступаў Янка Купала, слухаць лекцыі Мітрафана Віктаравіча Доўнар-Запольскага. Таму пры ўспамінах пра іх Мікалай Мікалаевіч ажно пачынаў свяціцца знутры дабрынёй, вялікім святлом удзячнасці і шанавання.

Вось занатаваныя мной у запісной кніжцы ў 1985 годзе ўспаміны Мікалая Мікалаевіча пра Пічэту.

"Яго кабінет, канцылярыя знаходзіліся ў гэтым "стракатым доме" насупраць гасцініцы "Мінск". Прыйшлі здаваць залік. Перад намі яўрэечка з добрым смалявіцкім акцэнтам. У адказ на пытанне нясе такое глупства, што і мы здзівіліся. Пічэта

апусціў галаву, слухае, ківае. Урэшце падхапіўся, затупаў нагамі:

— Як вы смееце з такімі ведамі ісці да мяне, да рэктара?

І тупае нагамі.

— Ідзіце вон!

У тае з перапуду ногі адняліся, устаць не можа.

Пічэта пачынае шморгаць сябе за гальштук — гэта ўжо найвышэйшая ступень разлаванасці.

Дзяўчына нарэшце выграбаецца з пакоя. Мы таксама збіраемся падацца следам.

— Не, сядайце.

Пасадзіў, запатрабаваў кніжкі і паставіў залік".

І яшчэ запіс.

"Сямён Вальфсон. Акадэмік Вальфсон. Сёмачка. У час яго работы ў камісарыяце асветы зайшоў настаўнік са Старыцы. Граміла, твар грубы, бандыцкі. У школе сшыткаў няма, падручнікаў няма, алоўкаў няма. Сёмачка маленькі за сталом. Прынцыпова ні слова беларускага не гаварыў. Настаўнік падняўся, табурэтку за ножку. Сёмачка пад стол. Табурэтка — аб сцяну і рассыпалася.

— Ну что вы такой нервный? Мы же с вами можем договориться!

Настаўнік займеў запіску і атрымаў усё патрэбнае на складзе.

У трыццатыя гады дапамагаў даносіць.

Дабра назбіраў. Калі пачалася вайна, не з універсітэтам паехаў у эвакуацыю, сам. Усе куфэркі спакаваў, наняў фурманку і рушыў са сваім скарбам. Недзе за Смалявічамі спыніліся ў лесе начаваць і адтуль больш не выехалі. Воз са скарбам у чамаданах некаму кінуўся ў вочы".

Мікалай Мікалаевіч быў захоплены працаю пра сваю родную вёску Віцкаўшчыну. Навуковец, які ўмеў глянуць на стагоддзі, эпохі ў жыцці народа з гэтакім жа самым сур'ёзам пісаў пра простую вёску, пра лад яе жыцця, пра побыт. У гэтым ён бачыў штосьці глыбіннае, першапачатковае, вызначальнае ў лёсе цэлага народа. Мы гаварылі пра дэталі побыту, пра простыя сялянскія прылады працы, параўноўвалі, як у яго на радзіме і ў нас на Случчыне называліся дэталі конскае вупражы, падводы, пра розныя-розныя дробязі, якія даўно ўжо адышлі з ужытку і назвы якіх пазабываліся і людзі даволі немаладога веку.

Я тады не чытаў яго артыкулаў, пісем, тых жа самых раздзелаў з "Краязнаўства". Мяне толькі ўразіла, з якой любоўю ён гаварыў па-беларуску, сваім адметным стылем, дакладна падабраным не дзяжурным словам. Ён адчуваў смак у гаворцы, радаваўся слову, і я ўпэўнены, крышку і ганарыўся ў душы, што Бог даў яму дар валодаць словам. Я перакананы, што яму хацелася пісаць не толькі навуковыя тэксты, яму хацелася паспрабаваць свае сілы і ў мастацкім творы, але на гэта ён не адважваўся — гэта была для яго нейкая святая вяршыня. І ён чытаў беларускіх пісьменнікаў, радаваўся іхнім удачам і не ленаваўся, пісаў удзячныя лісты Івану Мележу, Янку Брылю, Міхасю Тычыну...

Праз многа гадоў, калі я ўжо і прачытаў работы Мікалая Мікалаевіча, і многае даведаўся пра яго жыццёвы шлях, па-іншаму мне ўспамінаецца і той Каралішчавіцкі лес, і крыху нахіленая наперад постаць чалавека, які ўпарта адмервае і адмервае кіламетры, нястомна ідзе і ідзе. Цяпер я ведаю, куды ён ідзе — ідзе дадому, на Бацькаўшчыну. Вялікі і годны сын сваёй зямлі, ён усё жыццё ішоў на Бацькаўшчыну, ад якой яго адлучылі і на якую ўпарта не хацелі даць вярнуцца. За навукоўскім сталом, на лясной дарозе ён быў упэўнены, што канец дарозе будзе там, куды ён імкне. І не думалася, што не так, як марылася, і што не гэтак неспадзявана хутка. Да Бацькаўшчыны дайшоў ён толькі для таго, каб спачыць у роднай зямлі, данёс з сабою Купалавы словы і паўтарыў, каб мы ведалі пра яго дарогу.

"Мне сняцца сны аб Беларусі".

Сёння яны на камені над яго магілаю на Чыжоўскіх могілках Мінска.

ЗГАДКІ

# Як я спазнаваў Бога?

Што ёсць Бог? На гэтае пытанне няма і не можа быць нейкага адназначнага адказу. Бога нельга спазнаць разумова, інтэлектуальна. Спазнаць Бога азначае адкрыць Яго ў ходзе свайго ўласнага існавання. Але Бог не можа быць адкрытым цалкам, да канца — інакш Ён не быў бы для нас Богам. Ды нам не дадзена спазнаць Яго цалкам — інакш мы былі б роўныя Богу. Бог прымае нас, любіць нас, але блізкасці не дапушчае. Ён не хоча зліцця з намі, нябожымі сынамі. Ён адкрываецца нам, калі мы Яго адкрываем. Ён прымае нас, але можа і адрынуць — на тое Ягоная Воля. Бог — святло для нас, але Ён аслонены таямніцай няведання, для паасобных з нас аслонены поўнай зацемненасцю. Бог хоча, каб мы любілі Яго і сябе саміх, але каб і баяліся Яго. Па сутнасці, мы ўсе жывём пад страхам Божым.

У маленстве бабця вучыла мяне: "Божанька добры, літасцівы, але Ён і карае. Такіх неслухаў, як ты..." Калі што з майго боку было не так, пужала мяне Богам: "Пачакай, так табе не пройдзе, Божанька пакарае цябе!" Незадаволеная маімі паводзінамі, злосная, у дадатак абзывала мяне чамусьці "дэмакратам". Адсюль у маім тадышнім уяўленні Бог быў асобай, якая любіць цябе, але можа і пакараць.

Але Бог — не асоба. Гэта прымітыўнае разуменне Бога. Бог не хоча быць прыпадобнены да асобы, да нечага канкрэтнага. Ён толькі ўяўляецца намі асобай, таму што гэта найлягчэйшы спосаб уяўлення Яго. Бога ніхто не бачыў і не чуў, Ён успрымаецца намі толькі праз Хрыста, сына Божага. Бог ужо быў напачатку, існаваў і Ягонае існаванне — гэта першапачатковы фактар, што не патрабуе якога-небудзь тлумачэння. Бог не мае ні паходжання, ні станаўлення. У Яго няма неабходнасці тлумачыць нам, хто Ён такі. Ён самаўладна паўстае перад намі менавіта таму, што Ён — Бог.

Дык усё-такі: што ёсць Бог?

Бог ёсць, калі ў нас ёсць упэўненасць, што Ён ёсць. Няма ўпэўненасці — няма і Бога. Няма веры — няма і Бога. Калі ў нас саміх няма Бога, яго нідзе няма. Значыцца, Бог ёсць тое, што ёсць у нас саміх. І Бога адкрывае кожны па-свойму, калі адкрывае наогул.

Прыгадваецца мне тут маё калымскае "адкрыццё" Бога...

З якуцкай юрты на лесанарыхтоўках мяне бралі на этап: выклікала менскае НКВД на новае следства. Канвою над намі не было — куды адсюль уцячэш? — і брыгадзір сказаў мне: ідзі сам без канвою, да саўгаса "Калымскі", а адтуль цябе ўжо пад канвоем даставяць у Магадан, не заблудзі.

А да таго саўгаса было не менш, не больш, а 25 кіламетраў. Прытым дарогі — ніякай, і я баяўся, што не дайду, заблуджу. Аж не верылася, што за чатыры гады падканвойнага жыцця я іду без канвою, адзін, вольны. Ад гэтага было нават жудка. Але радасць, што мяне выклікаюць, што вяртаюся ў Беларусь, у Менск, гнала мяне. Я не йшоў, а ляцеў, як на крылах: можа, наперадзе мяне чакае воля?!

Колькі часу ішоў, не ведаю, ажно бачу наперадзе юрту і каля яе — чалавека з ружжом. Уласна, я не паспеў яшчэ яго ўспрыняць, як працяў мяне, быццам ток, не то мой уласны, не то чыйсьці голас: "Не бойся. Ідзі!" І я іду на чалавека з ружжом. Той здымае з пляча ружжо і сустракае мяне з нацэленай на мяне руляй. "Стой!" — загадаў. Аглядае мяне. "Пайшлі!" — скамандаваў. Гоніць мяне з ружжом напагатове. Куды? А ўва мне той самы голас: "Не бойся!" Чалавек з ружжом загадвае: "Стой. Ты з якога лагера ўцёк? Але ад мяне ты не ўцячэш. Я завяду цябе туды, адкуль ты ўцёк. Я зараблю на табе. У мяне дзеці галодныя". Потым: "У цябе ёсць закурыць?" Пачалася гаворка. Чалавек з ружжом быў якутам. За кожнага злоўленага ўцекача ён атрымліваў узнагароду. Я кажу яму: "За мяне ты нічога не атрымаеш — я адпушчаны". Якут угледзеўся ў мой твар, зірнуў у вочы і, быццам са шкадаваннем, прамовіў: "Тваё аблічча не хлусіць мне. Ідзі, куды йшоў."

І я пайшоў. У сэрцы сваім усю дарогу я нёс якута.

Я ніколі ў сваім жыцці не карыстаўся самалётам — баяўся, дый не было патрэбы, маё жыццё да пэўнага часу было аседлым. Але надышоў час, калі я мусіў ляцець. Універсітэт у Мізулі (штат Мантана) выклікаў мяне на субяседаванне, і ў мяне не было іншага выхаду, як толькі звярнуцца да паслугі самалёта. Жонка й дзеці ўгаварылі мяне, і я еду на аэрадром у Індэанапаліс. Праходжу патрэбную апрацоўку. Пачалі выпушчаць пасажыраў на пасадку. Калі я яшчэ не бачыў самалёта, дык неяк трымаўся. А ўгледзеў — у мяне ўжо цвёрдае рашэнне: ніколі ні за што. Пасажыры падымаюцца па лесвіцы ў самалёт, быццам на Галгофу, заднія напіраюць на мяне, а я дайшоў да лесвіцы і — упёрся: ні за што, гэта не для мяне.

Так і не паляцеў, вярнуўся дахаты — на вялікае здзіўленне маіх сямейнікаў.

Што тут было? Боязь загінуць? Страх смерці? Страх апынуцца ў замкнёным д'ябальскім атачэнні? У Новым запавеце сказана, што ёсць страх чалавечы і страх Божы і што ў аснове страху ляжыць сапраўднае рэлігійнае пачуццё. Што было ў маім выпадку, не ведаю.

Аднак адкруціцца ад самалёта я ўсё-такі не мог, калі займеў працу ў Германіі. Мая кампанія аплачвала толькі самалётнае падарожжа, як больш таннае за параходнае. Мая даведка ад доктара, што з хворым сэрцам я не магу ляцець, не выручыла мяне: хоцькі-няхоцькі я быў змушаны сесці ў самалёт. Але якая гэта была пакута! У гэтай пакуце я й "адкрыў", угледзеў Бога.

З Мюнхена лячу ў Нью-Йорк. Здзівіла мяне непамерна вялікая колькасць пасажыраў на мой самалёт, і гэта ўжо адно насцярожыла мяне: як можа самалёт узяць такую колькасць людзей, падняць іх? Наіўна, скажаце? Але я сумняваўся ў разумнасці гэтага прадпрыемства. Чакаем узлёту. Я ўвесь у неймаверным напружанні — ці ўзляцім? Жонка нешта хоча сказаць мне, але я прашу яе, каб памаўчала, думаў, што гаворка можа пашкодзіць узлёту і маёй засяроджанасці. Абуралі дзеці, што ўсё не спынялі сваіх гуляў. Я хацеў, каб у гэты момант панавала поўная, боская цішыня, паколькі гэта тая часіна, калі мае **вырашыцца** ўсё. Самалёт набірае разгон для ўзлёту. Я стаіў дыханне. Малюся за сябе і за лётчыка, каб ён не зрабіў якой памылкі. Ды нечакана паведамляюць: самалёт не набраў патрэбнай хуткасці для ўзлёту і мусіць рабіць другі заход. Я некуды праваліўся, мяне не было. Ачнуўся, калі адчуў плаўны ўзлёт самалёта. Пасажыры, прыціхшыя было, ажывіліся, узнавілася мітусяніна, што выклікала ў мяне незадавальненне, нават варожасць: як яны не разумеюць, не маюць Божага страху, калі мы ўжо ў паднябессі, у іншым вымярэнні?! Пройдзе хто ў ботах цяжкой хадой міма, баюся: гэта ж можа адбіцца на раўнавазе самалёта. Замыкаюся ў сабе. Заплюшчваю вочы і бачу наперадзе нашага самалёта Багародзіцу, такой, як Яна ў нас на іконцы, толькі куды прыгажэйшая, а за Ёю, на нейкай адлегласці, — сам Бог, вядуць наш самалёт, паказваюць яму пуць. Я спакойны. Яны аберагаюць наш самалёт ад небяспекі. Нат калі йдзе самалёт на спад, крэхча, ведаю — самалёт не ўпадзе, ён на боскіх хвалях. У Бога нічога не падае, трымаецца ў Божым суладдзі. А адплюшчу вочы — Багародзіца і Бог знікаюць з небасхілу. Я ўжо ў самалёце: тыя самыя пасажыры, тое самае ўсё. Рэальнасць. Заплюшчваю вочы зноў: бачу ў паднябессі зноў Багародзіцу і самога Бога. Багародзіца ўся ў светлыні, радасная, Бог у нейкай хмурасці, вядуць, быццам на сваіх далонях, наш самалёт. І я, здаецца, не лячу, а мякка плыву пад боскай аховай. Жонка пад бокам маўчыць, ведае: выклікаць мяне на гаворку немагчыма.

І гэтак да самага Нью-Йорка. Пілоту ўдаецца мяккая пасадка. Мы ўжо на зямлі. Вобраз Багародзіцы і Бога зніклі ў паднябессі. Але яшчэ доўга буду бачыць іх у сваёй уяве.

Бабця вучыла мяне: "Бог доўгацярплівы, але гэта не значыць, што Ён можа цярпець бясконца. Дык ты мусіш мець гэта на ўвазе. Прыйдзе часіна, калі за ўсе нашы правіны трэба будзе расплачвацца. Я цябе не пужаю. Я табе ўжо казала, што Бог і літасцівы, што калі ты будзеш маліцца Богу шчыра, моцна, усёй душой — а ад Бога нічога не схаваеш, Ён пазнае, ці шчыра ты молішся, — будзеш прасіць Яго ў нечым табе дапамагчы, твая просьба можа споўніцца. Але, кажу, трэба маліцца так, каб тваю малітву Бог пачуў, у Бога трэба вымаліць тое, што просіш..."

Раскажу пра тое, як я "вымаліў" у Бога Амерыку.

Я ўжо прайшоў усе амерыканскія камісіі і падкамісіі і, седзячы ў лагеры ля перамешчаных асоб у Бакнанзе (Вюртэмберг), чакаў выкліку з Людвігсбурга, дзе павінен быў прайсці яшчэ адну, канчальную праверку, ад якой залежала, дапусцяць мяне ў Амерыку ці не.

Але з Людвігсбурга выкліку ўсё не было, замест выкліку паведамленне — усе мае дакументы, уся мая справа прапала, украдзена і просьба як найхутчэй запоўніць нанова патрэбныя бланкі і спешна адасласць іх у Людвігсбург. Нашыя лагерныя сакратаркі не марудзілі, зрабілі ўсё, што вымагалася, і адаслалі ў той Людвігсбург.

І вось я ў Людвігсбургу, у апошняй інстанцыі, дзе нейкі галоўны начальнік мусіць паставіць толькі свой подпіс на маіх паперах. Падпіша — значыць, еду ў Амерыку, не падпіша — будзе бяда. Строгі галоўны начальнік гартае мае паперы. Я перад ім за сталом. І ён раптам: "Год нараджэння? У адным месцы у вас 1913, у іншым — 1915." Я ў разгубленасці, я не заўважыў, калі запаўняліся бланкі, разбежнасці ў даце майго нараджэння, не заўважыў памылкі. Начальнік не падпісвае маіх папераў, кідае іх мне на рукі і выходзіць на калідор. Я ўслед. Начальнік супыніўся. У руках у мяне паперы і капялюш. Начальнік глядзіць на мяне зверху ўніз, а я, выпростваючыся перад ім у сваёй просьбе, гляджу яму ў вочы — прашу, малю. Нешта адбылося з ім у гэты момант. Ён бярэ паперы з маіх рук і, стоячы, прыкладвае іх да сцяны, дастае аловак і пытаецца, дык якая з гэтых дат нараджэння правільная? Я адказаў. І ён ставіць свой подпіс — я еду ў Амерыку...

Скончу гэту гутарку роллю пачуццёвасці ў спазнанні Бога, роллю мастацкай літаратуры ў спасціжэнні боскага. У мае школьныя гады найбольшы ўплыў на мяне рабіла творчасць Якуба Коласа, асабліва ягоны "Сымон музыка". Лёс Сымона выклікаў у мяне найглыбейшыя пачуцці спачування яму. Не мог устрымацца ад слёз, чытаючы як ён пакідаў хату, бацькоў, адчуваў сябе выгнаным. Ягоная доля мастака кранала маё сэрца. Я ведаў на памяць цэлыя раздзелы з паэмы Якуба Коласа. У шматгалосым аркестры беларускай літаратуры творчасці Янкі Купалы адзін крытык адводзіў ролю бубна, творчасці Якуба Коласа — ролю скрыпкі. Сэрца маё найбольш кранала скрыпка. Між іншым, у Новым запавеце сказана, што сэрца — гэта месца, дзе чалавек сустракае Бога. На габрэйскай мове сэрца азначае "ўнутраную сутнасць" чалавека. Я хачу сказаць, што эстэтычнае выхаванне, а ў ім — мастацкая літаратура ўдасканальваюць нас пачуццёва і найперш праз пачуцці мы спазнаём Бога. У філасофіі сенсуалізму ёсць такое палажэнне: нічога няма ў нашай свядомасці, чаго б не было раней у нашых пачуццях.

**Масей СЯДНЁЎ**

*Глен Коў, ЗША*

ВАНДРОЎКІ

# "Шалом" у Ізраілі

***Лаўрэат другога Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур Лідскі ансамбль яўрэйскай музыкі "Шалом" пабываў нядаўна ў Ізраілі. Я звярнуўся да кіраўніка калектыву Міхала Дзвілянскага і папрасіў яго падзяліцца ўражаннямі ад паездкі на "зямлю абяцаную".***

— Са сваімі канцэртамі, — адказаў Міхал Якаўлевіч, — мы выступалі ўжо ў многіх гарадах Беларусі, Польшчы, Летувы. І вось выдарылася магчымасць пабываць у Ізраілі. Гастралявалі мы там дзесяць дзён. Перад паездкай ансамбль падрыхтаваў шырокую праграму з песень яўрэйскіх мястэчкаў, малітваў і клезмерскай музыкі.

**— Мне вядома, што ў збіранне гэтых песень, увогуле яўрэйскага фальклору значны ўклад зрабіў ваш брат Аркадзь Дзвілянскі, кампазітар, паэт, кандыдат мастацтвазнаўства, які жыў у свой час у Магілёве, а цяпер пражывае ў Злучаных Штатах Амерыкі. Ці так гэта?**

— Абсалютна так. Апрача таго, ён напісаў кнігу даследавання "Музычны яўрэйскі фальклор Беларусі" (Магілёў, 1996 год), у якой сабраў і сістэматызаваў унікальны матэрыял. На жаль, захавалася на Беларусі толькі нязначная яго частка. Па сутнасці, як піша аўтар манаграфіі, "гэта асколкі разбуранага храма. Аднак асколкі бываюць розныя. Іншыя не страчваюць сваіх былых уласцівасцей і здатныя ўзнаўляць тое, што нядаўна было па-варварску разбурана". Арыгінальныя творы і аранжыроўкі Аркадзя Дзвілянскага складаюць аснову рэпертуару нашага ансамбля, абумоўліваюць кірунак яго творчага развіцця.

**— Адзін з удзельнікаў ансамбля казаў, што ў Ізраілі выконвалі і песню "Крынічка" на мае вершы, музыку якой напісаў Аркадзь Дзвілянскі.**

— Выконвалі. Дарэчы, яе вельмі прыхільна там прынялі. Акрамя таго, мы праспявалі шэраг песень беларускіх, рускіх, польскіх аўтараў, песні партызан, сучасныя ізраільскія песні, пасля якіх таксама доўга не сціхалі апладысменты. Увогуле кожнае наша выступленне, мне здаецца, было па-свойму значнае і будзіла ў слухачоў успаміны пра былое...

**— Што, на вашу думку, спрыяе поспеху вашага калектыву?**

— Творчая ўдача ансамбля "Шалом" абумоўлена тым, што кожны яго ўдзельнік спалучае ў сабе шматгранныя здольнасці. Андрэй Ганін, напрыклад, віртуозна ўпраўляецца з сінтэзатарам, выконваючы адначасова функцыі аператара і аранжыроўшчыка. Кларнетыст Стас Мішкель незаменны ў вырашэнні ўсялякіх гаспадарчых праблем. Салістка Святлана Фельдман з нязменным поспехам у слухачоў выконвае многія нацыянальныя танцы. Мне ж як кіраўніку ансамбля даводзіцца граць на скрыпцы, вырашаць арганізацыйныя задачы і прыслухоўвацца да крытычных заўваг знаўцаў мастацтва, намячаючы далейшую перспектыву.

**— Ці ўдалося вам у Ізраілі сустрэцца з ураджэнцамі Ліды, увогуле Беларусі?**

— Так. Незабыўнай, хвалюючай была сустрэча ансамбля з былымі лідчанамі, іншымі колішнімі жыхарамі Беларусі ў Натаніі, на беразе Міжземнага мора. Сямейныя прыёмы, экскурсіі па святых месцах, паездкі па гарадах выклікалі моцныя і прыемныя ўражанні.

**Гутарыў Уладзімір ВАСЬКО**

# Не бывае формы без зместу!

***Што толькі ні збіраюць людзі: паштовыя маркі, кніжкі, манеты... Але (не крыўдуйце, калекцыянеры!), гэта банальна і празаічна. Сустракаюцца, праўда, дзівакі, якія захапляюцца чымсьці незвычайным, неардынарным. Да прыкладу, мой мінскі знаёмы Зміцер Бушлакоў збірае абмундзіраванне, якое насілі салдаты ў гады апошняй вайны. Уявіце сабе маладога хлопца (дарэчы, працуе Зміцер перакладчыкам), які літаральна дрыжыць над нямецкімі мундзірамі альбо савецкай формай сталінскіх часоў. І пры гэтым зусім не выглядае гэткім маніякальным вар'ятам, які лазіць па сметніках і цягне ў кватэру рыззё...***





**— Скажы, Зміцер,а з чаго ўсё пачыналася? Можа, у сям'і хто-небудзь быў калекцыянерам?**

— Ды не. Акрамя мяне, здаецца, ніхто нічога не збіраў. Дзядуля працаваў у НКУСе, таму "форменная спадчына" засталася ад яго больш чым цікавая. Ды плюс маё асабістае захапленне ваеннай гісторыяй, якое ўсчалося яшчэ з дзяцінства. А ўсе рэчы, якія я збіраю, — непасрэдныя сведкі гэтай самай гісторыі.

**— І як, вялікая ўжо калекцыя?**

— Напэўна, ніводзін калекцыянер не скажа, што ў яго зашмат экспанатаў. Заўсёды хочацца вышукаць штосьці яшчэ. У маёй калекцыі ўжо ёсць некалькі поўных камплектаў вайсковай формы. У кожны, акрамя абмундзіравання, уваходзяць яшчэ і знакі, што насілі ў той час. Ёсць шмат рэчаў, якія трэба ўкамплектаваць у адзінае цэлае, каб уявіць знешні выгляд салдата ці афіцэра. Незалежна ад таго, рускі ён ці немец.

**— А якім чынам збіраеш усё гэта?**

— Часта прыносяць форму па аб'явах. А бывае і з іншымі калекцыянерамі абменьваюся...

**— І што, шмат тых, хто цікавіцца менавіта уніформай?**

— У Мінску — каля 20 чалавек. Але, магчыма, і больш. Многія ж сакрэтнічаюць: баяцца, што прыйдзе міліцыя і забярэ ўсё. Дзіўна, гэта ж не зброя...

**— Ці бывае так, што на працягу доўгага часу нічога новага не з'яўляецца і здаецца, што далейшае збіральніцтва проста не мае сэнсу?**

— Асабіста ў мяне такога пакуль не было. Яшчэ ж шмат тых, у каго засталіся унікальныя рэчы. Напрыклад, многа чаго вывезена за межы краіны, прычым прададзена за вялікія грошы. Толькі ў Германіі ў 43-ім была дванаццацімільённая армія. Уяві сабе, колькі чаго засталося. Не магло ж гэта ўсё адразу знікнуць. Некаторыя калекцыянеры нават і па сёння знаходзяць форму напалеонаўскіх часоў!

**— Дарэчы, а ты б сваю калекцыю прадаў?**

— Ні ў якім разе! Я нават ацаніць яе не магу. Тут кожны экспанат родны. Нават калі абменьваюся, і тое шкада. А прадаваць — ніколі!

**— Шмат грошай ідзе на калекцыю?**

— Напрыклад, нямецкую кукарду прыдбаў дзесьці за 35 долараў. Даволі рэдкая рэч. Нават у музеі не знойдзеш. Але, як вядома, людзі розныя бываюць. Хтосьці прыносіць нешта сапраўды каштоўнае і аддае за так, бо выкідваць збіраўся. А іншаму паспрабуй дакажы, што прынесенае асаблівай каштоўнасцю не вызначаецца.

**— А за мяжой цікавяцца такімі рэчамі?**

— Яшчэ як! У ЗША, Канадзе дый увогуле ва ўсім свеце нават клубы існуюць, арганізацыі, якія аб'ядноўваюць калекцыянераў і займаюцца рэканструкцыяй баявых дзеянняў. Вось у Кентукі, напрыклад, будуецца сапраўдны фронт — копія рэальнага, з аэрадромам, лініямі перадач. Нешта падобнае імкнуцца рабіць і ў Расіі. "Масфільм" (або "Ленфільм") пры афіцыйнай заяве клуба выдае зброю, тэхніку. Збіраюцца апранутыя па форме "немцы" і "саветы"... Звычайна на такое відовішча запрашаюць ветэранаў. Бо толькі той, хто ўдзельнічаў у сапраўдных баях, можа ацаніць намаганні калекцыянераў... Нам яшчэ далёка да гэтага, дый калекцыянераў не так ужо і шмат...

**Гутарыла**
**Вольга АНЦІПЕНКА**

**P.S. Калі ў чытачоў узнікнуць пытанні ці прапановы да героя інтэрв'ю, то з калекцыянерам можна звязацца па тэлефоне 284-53-25.**

*На здымках: форма пяхотнага салдата Вермахта (1943 г.), мундзір капітана НКУС (1945 г.).*

# Суфлёр

ПАДКАЗКІ—АНОНСЫ—ПАРАДЫ АД "ЛіМа"

**РАМПА**

**Оперны тэатр**

Учора тут адбыўся гала-канцэрт зорак беларускага опернага мастацтва. А з заўтрашняга дня па 24 верасня артысты опернага будуць знаходзіцца на гастролях у Віцебску. Па іхнім вяртанні ў сталіцу можна паглядзець і паслухаць такія пастаноўкі:

*28 верасня* — "Князь Ігар" Барадзіна.

*30 верасня* — "Севільскі цырульнік" Расіні.

*1 кастрычніка* — "Яўген Анегін" Чайкоўскага.

*3 кастрычніка* — "Аіда" Вердзі.

*5 кастрычніка* — "Набука" Вердзі.

*7 кастрычніка* — "Паяцы" Леанкавала.

*10 кастрычніка* — "Іаланта" Чайкоўскага.

*12 кастрычніка* — "Кармэн" Бізэ.

*14 кастрычніка* — "Чыо-Чыо-сан" Пучыні.

**Малы тэатр**

*19 верасня* — у Доме афіцэраў "ART".

*21,27 і 28 верасня* — у клубе імя Дзяржынскага прэм'ера любоўнага трылера "Дотык" Патрыка Марбера. Рэжысёр — Мікалай Пінігін, мастак-пастаноўшчык — Зянон Марголін, у ролях — Сяргей Журавель і Ігар Забара.

*26 верасня* — гасцявы спектакль "Майстар-клас" з расійскай артысткай Таццянай Васільевай у галоўнай ролі.

**Праект "Віртуозы сцэны"**

*15 верасня* — у памяшканні тэатра імя Янкі Купалы швейцарскі тэатр "Расін" прадстаўляе спектакль Э. Олбі "Выпадак у заапарку".

*16 верасня* — "Дурнотнае каханне".

*17 верасня* — "Бедная Ліза".

*22 верасня* — "Сублімацыя кахання".

*23 верасня* — "Жудасныя бацькі".

*29 верасня* — "Жорж Дандэн, альбо Падмануты муж" (усе спектаклі пройдуць у ДК імя Дзяржынскага).

**ТЭАТР-СТУДЫЯ КІНААКЦЁРА**

*15 верасня* — "Апошняя жанчына сеньёра Хуана".

*19 і 20 верасня* — "Выкраданне Алены".

*21, 22 і 23 верасня* — "Філумена Мартурана".

*26 і 27 верасня* — "Мы ідзём глядзець "Чапаева".

*28 і 29 верасня* — "Таленты і прыхільнікі".

*30 верасня* — "Тэатр купца Япішкіна".

**КЛУБ "ЮЛА"**

*14, 21 і 28 верасня* — будзе паказана фантазія на тэму кахання і рэўнасці ў стылі танга па матывах апавядання Фёдара Дастаеўскага "Чужая жонка, альбо Муж пад ложкам".

**КВЗ**

*17 верасня і 18 верасня* — у к\з "Мінск" пройдуць паўфінальныя гульні беларускай Вышэйшай лігі. Гуляюць каманды Беларускага недзяржаўнага інстытута правазнаўства, Акадэміі МУС, Віцебскага дзяржаўнага універсітэта і лідскага ААТ "Лакафарба".

*19 верасня* — там жа выступіць больш вядомая ў свеце КВЗ каманда "Дзеці лейтэнанта Шміта".

**ВЫСТАВЫ**

Цікавую традыцыю заклалі ў Міністэрстве замежных спраў — арганізацыю выстаў лепшых беларускіх мастакоў. Як сказаў міністр Урал Латыпаў, "каб беларускія дыпламаты лепш ведалі нацыянальнае мастацтва, актыўна прапагандавалі яго за мяжой". Першай у фае МЗС з'явілася выстава твораў народнага мастака Беларусі Леаніда Шчамялёва.

*15 верасня* — гэта значыць, сёння яшчэ застаецца магчымасць пабачыць у Нацыянальным мастацкім музеі выставу кітайскага жывапісу і графікі

*З 31 жніўня* — па ўвесь верасень у Музеі культуры і гісторыі Беларусі дзейнічаюць ажно 3 выставы твораў сяброў фотаклуба "Мінск". Можна пабачыць здымкі ажно 19 стагоддзя.

**КАНЦЭРТЫ**

*27 верасня* — у ТЮГу адбудзецца прэзентацыя кампакт-дыскавага альбома "Ой, у лузе, лузе... " гурта "Ліцьвіны".

*29 верасня* — з 17-ай па 22-ю гадзіну ў "Парк-клубе "Мінск", што ў парку Чалюскінцаў, адбудзецца другая частка прэзентацыі альбома "Вольныя танцы: новая альтэрнатыва" пры ўдзеле гуртоў "Z" (новы музычны праект Лявона Вольскага), "Тройца", якая хутка з'явіцца на НТВ у перадачы Д. Дзіброва "Антрапалогія", "Новае неба", "Ur'ia", "Без білета", "Long play", "Happy Face", "Exist", пераможца сёлетняга фестываля на Басовішчы "Postscriptum", "Акруга вольнага мастацтва". Кошты на канцэрт — ад 1,5 да 2,5 тысячы. Кніжкі для студэнтаў і тых, хто купіў альбом.

**ЭКРАН**

**Беларускае тэлебачанне**

Сёння адбудзецца амаль немагчымае: БТ у наўпроставым эфіры пакажа цырымонію адкрыцця сіднейскай Алімпіяды. Потым з'явяцца рэпартажы спаборніцтваў некаторых відаў спорту.

*15 верасня, 14.25* — "Арт-клуб" з заслужанай артысткай Беларусі Людмілай Корхавай.

*17 верасня, нядзеля, 15.10* — "Запрашаем на вячоркі". Будзе паказаны вясельны абрад у вёсцы Якімава Слабада, што на Гомельшчыне.

ВЕРНІСАЖ







*Малюнкі А. ГУРСКАГА*


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Алесь ГАЎРОН** — *адказны сакратар,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Яўген РАГІН,**
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *першы намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-8462

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 2812
Нумар падпісаны ў друк 14.09.2000 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 4801.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12